



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 снежня 2015 года №51 **(1077)**


## Падпіска на 2016 год

### Трымай рэгіён у сваіх руках – падпісвайся на "РГ"

**Кошт індывідуальнай падпіскі:**

**на месяц – 21 100 руб.**
**на квартал – 63 300 руб.**
**на паўгоддзе – 126 600 руб.**

**Кошт ведамаснай падпіскі:**

**на месяц – 63 300 руб.**
**на квартал – 189 900 руб.**
**на паўгоддзе – 379 800 руб.**

## Затрымалі намесніка старшыні Валожынскага райвыканкама: падазраюць у хабарніцтве

старонка 3

## Ветэрынар – не чараўнік. Па тэлефоне дыягназ не паставіць

старонка 14



Дзмітры Рудык

Крысціна Шлыковіч

Адам Мальдзіс

# ХТО СТАНЕ АСОБАЙ ГОДА 2015



Вікенці Налівайка

**19 кандыдатаў**



Вадзім Бычкоўскі

**Выбірайце на старонцы 21**

Калаж Настассі РОЎДЫ.

ДА ДНЯ ЭНЕРГЕТЫКІ

## Пакуль чалавека помняць, ён з намі

ВІЛЕЙКА

**22 снежня будзе адзначацца прафесійнае свята работнікаў энергетычнай галіны.**



Фота забяспечанае Яўгенам ПЕТРЫКЕВІЧАМ.

Міхаіл Мікалаевіч Жаўняровіч.

З гэтай нагоды яшчэ раз успамінаем добрым словам прафесіянала-энергетыка **Міхаіла Мікалаевіча Жаўняровіча**, былога начальніка электрычных сетак Вілейскага раёна, які сышоў з жыцця сёлета ў маі.

Ён аддаў гэтай службе больш за 40 гадоў, прайшоў шлях ад майстра, старшага майстра, галоўнага інжынера да начальніка РЭС.

Міхаіл Мікалаевіч меў дачыненне да ўводу ў эксплуатацыю многіх значных энергааб'ектаў горада і раёна, такіх як гідраэлектрастанцыя (ГЭС), міні-цеплаэнергацэнтраль (міні-ТЭЦ), басейн, гасцініца. Пад яго кіраўніцтвам праходзіла рэканструкцыя энергасістэм аграгарадкоў, заводаў "Зеніт" і "Буддэталі", электрасетак індывідуальнай забудовы грамадзян, іншых аб'ектаў.

Кожны кіраўнік і энергетык у любым гаспадарчым падраздзяленні ведае, колькі неабходна правесці ўсялякіх электравымярэнняў, аформіць пратаколаў, актаў і іншай тэхнічнай дакументацыі, каб увесці ў эксплуатацыю асобны энергааб'ект. Не ўсё гладка складваецца пры іх укараненні, запуску ў работу. На гэта ўплываюць розныя прычыны.

Міхаіл Мікалаевіч заўсёды браў на сябе адказнасць і ініцыятыву ў вырашэнні нейкіх праблем, няўвязак.

Аказваў ён практычную і тэхнічную дапамогу ў падрыхтоўцы будучых кадраў каледжу, ліцэю, вытворчаму камбінату, дапамагаў ва ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы, быў старшынёй экзаменацыйных камісій.

Пры ўсёй адказнасці да работы ў ім спалучаліся высокі прафесіяналізм і прастата, асабліва чалавечнасць.

Наш калега пакінуў пасля сябе светлую і добрую памяць. Яго адносіны да людзей і да работы з'яўляюцца прыкладам для ўсіх нас.

**Калегі-энергетыкі.**

НОВЫ ГОД

## Моладзь разам з бабулямі выраблялі цацкі на ёлку

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі прайшла творчая сустрэча клуба "Арт-Гасцёўня".**

Удзельнікамі сустрэчы сталі і маладыя людзі, навучэнцы гуртка "Вясёлка", і педагогі цэнтра, і людзі старэйшага пакалення, удзельнікі клубаў "Залаты ўзрост" і "Ветэран".

Нашы бабулі – гэта людзі, якія многае перажылі і многае ўмеюць, але не губляюць аптымізму і сілы духу. Аб'ядноўвала іх загадчыца аддзялення дзённага знаходжання для грамадзян пажылога ўзросту Вілейскага ТЦСАН **Марына Макарава**.

На імправізаванай творчай пляцоўцы старэйшае пакаленне разам з дзецьмі дэманстравалі сваё майстэрства ў вырабе цацкі на ёлку ў тэхніцы "дэкупаж". Кіравала працэсам педагог дадатковай адукацыі гуртка "Вясёлка" **Наталля Рыжэвіч**. Дапамагалі ёй у гэтым навучэнцы – яе падапечныя.

Атмасфера павагі, сутворчасці, дабрыні, узаемадапамогі і набліжэння Новага года панавала на працягу ўсёй сустрэчы. Усе яе ўдзельнікі пазнаёміліся з тэхнікай "дэкупаж" і сваімі рукамі вырабілі навагоднюю цацку-падарунак. Прыняўшы ўдзел у майстар-класе, кожны з прысутных адчуў радасць творчасці. Як у добрай казцы, яна саграла сэрцы тых, хто сутыкнуўся з чарадзействам навагодняга пераўтварэння.

**Алена РАКЕЦКАЯ,**
**метадыст Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**



Фота Міколы ЛІННІКА.

Памінальная служба ля магіл Рушчыцаў у Багданаве 10 снежня.

УРАЧЫСТАСЦЬ

# Памяць аб Рушчыцу ўшанавалі ў Багданаве

ВАЛОЖЫН

**10 снежня ў Багданаве і Валожыне прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 145-годдзю мастака Фердынанда Рушчыца.**

Зямное жыццё Фердынанда Рушчыца пачалося ў мястэчку Багданава, якое і стала цэнтрам урачыстасцяў.

Перад адкрыццём афіцыйнай часткі ў Багданаўскай школе мастацтваў у касцёле прайшла імша ў памяць Фердынанда Рушчыца і яго сваякоў. На ёй, акрамя мясцовых жыхароў, прадстаўнікоў мясцовых улад, творчай інтэлігенцыі Беларусі і Літвы, былі прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу Літвы і Польшчы. Памяць Рушчыцаў была ўшанаваная і на магіле мастака і яго жонкі ў Багданаве.

Святкаванне ў школе ў зале, якая стане пачаткам музея Рушчыца, радкамі сваёй "Балады Фердынанда Рушчыца" адкрыў паэт **Віктар Шніп**:

*Было ўсё тут, і будзе ўсё пасля,*
*Як вернешся, здарожаны, дамоў*
*Да затравелых на кладах крыжоў,*
*Дзе ты ляжыш ля жонкі і бацькоў,*
*Дзе ты мастак і гэты родны свет –*
*Як твой, пакінуты з карцінаю, мальберт...*

Настаўніца школы №1 Валожына **Ала Макарэвіч** і настаўнік Вішнеўскай школы мастацтваў **Сяргей Сівы** па чарзе давалі мікрафон выступоўцам.

Дырэктар Нацыянальнага музея Беларусі **Уладзімір Пракапцоў** расказаў аб падрыхтоўцы да юбілею і планах, пленэрах, якія прайшлі, представіў карціны, якія беларускія мастакі падарылі музею.

Часовы ўпаўнаважаны ў справах Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь **Міхал Хабрас** адзначыў, што асоба Рушчыца інтэрнацыянальная і святкаванне яго юбілею – клопат міжнародны: "І добра, што яго лічаць і беларусам, і літоўцам, і палякам".

Амбасадар Літвы ў Беларусі **Эвалдас Ігнатавічус** выказаў меркаванне, што гэтыя святы толькі рэпетыцыя перад будучым 150-гадовым юбілеем, які трэба адзначыць вельмі годна і прыкласці да гэтага супольна ўсе намаганні.

Творчая тэлевізійная група на чале з **Уладзімірам Бокунам** паказала ўрывак з фільма пра Рушчыца "Нябеснае і зямное".

Паштавікі правялі ганаровае гашэнне маркі, выпушчанай спецыяльна да юбілею.

Старшыня Валожынскага раённага савета дэпутатаў **Сяргей Глінскі** і мэр Віленскага раённага самакіравання **Марыя Рэксць** падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Валожынскім і Віленскім раёнамі.

Пагадненне падпісалі і дырэктары Нацыянальных музеяў Беларусі і Літвы Уладзімір Пракапцоў і **Рамуальдас Будрыс**.

Будрыс адзначыў добрыя традыцыі беларуска-літоўскага супрацоўніцтва паміж музеямі і паабяцаў паспрыяць правядзенню ў Мінску вялікай выставы твораў Фердынанда Рушчыца.

У фонды будучага музея свой унёсак зрабілі мастак **Алесь Квяткоўскі**, фотамастакі **Мікола Ліннік** і **Васіль Кузьмічкін**, якія падарылі школе свае работы, звязаныя з імем Рушчыца.

У Валожынскім раённым краязнаўчым музеі адкрылася і працуе фотавыстава Міколы Ліннікa і Васіля Кузьмічкіна "Шляхамі Фердынанда. 2015". На ёй прадстаўленыя сучасныя фота Багданава, Вішнева, Валожына, Гальшанаў, Крэва, Мінска, а таксама фота па матывах карцін нашага земляка.

**Мікола ЛІННІК,**
**аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
**Фердынанд Рушчыц.**
10 снежня 1870, Багданава – 29 кастрычніка 1936, Багданава. Мастак, графік, тэатральны дэкаратар і педагог. Аказаў уплыў на развіццё жанру пейзажу ў польскім мастацтве. У яго творчасці знайшлі адлюстраванне жыццё і побыт беларускага народа, пераламіліся традыцыі беларускага рэалістычнага жывапісу.

СУВЯЗЬ

## Павялічваецца плата за стацыянарны тэлефон

**У Беларусі павялічваюцца тарыфы на паслугі электрасувязі.**

Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Мінэканомікі.

Для насельніцтва месячная абаненцкая плата за ўключаны ў асобную абаненцкую лінію тэлефон пераведзеныя на пагадзінную сістэму разлікаў і павялічыцца да 27 тысяч рублёў. У красавіку абанплата была 21 тысячу рублёў.

За поўную або няпоўную хвіліну злучэння трэба будзе заплаціць 57 рублёў (у красавіку – 51 рубель). Поўная або няпоўная хвіліна размоў па міжгарадзе будзе каштаваць 130 рублёў (у красавіку – 100 рублёў).

Павышэнне гранічных тарыфаў закране таксама юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў. Напрыклад, абанплата за асноўны тэлефон, пераведзены на пагадзінную сістэму разлікаў за размовы, вырасце да 31 500 рублёў (у красавіку было 24 500). Абанплата за асноўны тэлефон у фінансаваных з бюджэту арганізацый сацыяльнай сферы павялічыцца да 15 250 рублёў (у красавіку – 12 тысяч). Абанплата за асноўны тэлефон, уключаны ва ўстанова-вытворчую АТС, вырасце да 113 тысяч рублёў (у красавіку – 55 300).

Пастанова ўступае ў сілу 19 снежня.

**Паводле БелТА.**

● КАРУПЦЫЯ

# Затрымалі намесніка старшыні Валожынскага райвыканкама

**ВАЛОЖЫН**

**Крымінальную справу ўзбудзілі за хабар.**

Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі правяло праверку ў дачыненні да службовых асоб Валожынскага раёна. Затрымалі намесніка старшыні выканкама.

Супрацоўнікі прааналізавалі выкананне законнасці пры асваенні бюджэтных сродкаў, якія выдаткоўваюцца на рэканструкцыю і будаўніцтва аб'ектаў сацыяльнага прызначэння ў Валожынскім раёне.

Устанавілі, што ў лістападзе 2013 года намеснік старшыні райвыканкама па пытаннях будаўніцтва і ЖКГ садзейнічаў неабгрунтаванаму пераліку на карысць аднаго з прыватных прадпрыемстваў двух мільярдаў рублёў.

Грошы з дзяржбюджэту накіроўваліся ў лік нібыта выкананых будаўнічых работ, якія фактычна не ажыццяўляліся.

За спрыяльнае вырашэнне пытання, якое ўваходзіць у кампетэнцыю гэтай службовай асобы, ён атрымаў у якасці хабару таварнаматэрыяльныя каштоўнасці больш як на 10 мільёнаў рублёў (1200 долараў ЗША на той час).

Падпісанне фальшывых актаў аб выкананні будаўнічых работ прывяло да несвоечасовага ўводу ў эксплуатацыю жылога шматкватэрнага дома і павелічэння канчатковага кошту будаўніцтва.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці выставіла затрыманаму абвінавачанне на падставе ч. 3 арт. 430 Крымінальнага кодэкса (атрыманне хабару). Падазраванага змясцілі пад варту.

Правяраюць іншую інфармацыю пра магчымыя парушэнні заканадаўства з боку фігуранта і іншых службовых асоб Валожынскага раёна.

**Паводле МУС Беларусі.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

● ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Як чытачы дапамаглі Вадзіму Бычкоўскаму знайсці абутак

**ВАЛОЖЫН**

Пра маладога чалавека з Валожына, які прасіў дапамагчы яму знайсці абутак 51 памеру, "РГ" пісала ў пазамінулым нумары.

Адгукнулася шмат чытачоў. На пошту прыйшло каля дзесяці лістоў.

Пад гэтым матэрыялам на розных сайтах безліч парад не толькі з тым, куды можна звяртацца, але і дзе можна набыць танней.

Некалькі прадпрымальнікаў самі званілі ў газету і прапаноўвалі вырабіць абутак для Вадзіма.

– Дзякуй усім, хто адгукнуўся, – кажа Вадзім. – Я вельмі рады, што так шмат неабыякавых людзей. Шмат прапаноў, спадзяюся, нейкая з іх сапраўды мне падыдзе. Хаця яшчэ не паспеў прагледзець усе. У бліжэйшую суботу збіраюся ехаць у Мінск, магчыма, штосьці набуду. Чытаў і каментары пад матэрыялам у інтэрнэце. Аказваецца, шмат людзей, у каго такія ж нязручнасці з выбарам абутку.

**Настасся РОЎДА.**

## Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін ад 13 снежня на 2015-2016 гг.

**Удакладненне. У мінулым нумары "РГ" па віне рэдакцыі былі дапушчаныя недакладнасці ў раскладзе руху цягнікоў. Выпраўляем іх.**

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні | № цягніка | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Прыпынкі, дні курсіравання, паведамленні |
| 6102 | 04:14 | 05:59 | б/прып.: Селівонаўка | 6101 | 00:30 | 02:10 | б/прып.: Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:11 | 06:58 | | 6103 | 04:39 | 06:10 | б/пр.: Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі |
| 6108 | 05:42 | 07:29 | | 6105 | 05:20 | 07:03 | |
| 6110 | 06:45 | 08:42 | | 7033 | 06:10 | 07:28 | Мінск–Маладзечна з прып.: Ждановічы, Мінск-Паўн., далей да Гудагая, б/пр.: Гаўці, Скрэсціны, Каменка |
| 6112 | 07:33 | 09:21 | | 6107 | 06:23 | 08:15 | |
| 6114 | 08:59 | 10:47 | | 6109 | 07:20 | 09:11 | |
| 7032 | 09:38 | 10:59 | прыпынкі: Ждановічы, Мінск-Паўн. | 6111 | 08:57 | 10:43 | |
| 6116 | 09:58 | 11:53 | | 6113 | 09:52 | 11:38 | |
| 6118 | 11:12 | 12:59 | | 6115 | 11:33 | 13:17 | |
| 6120 | 13:02 | 14:49 | | 6117 | 12:48 | 14:35 | |
| 6122 | 14:57 | 16:44 | | 6119 | 14:40 | 16:25 | б/пр.: Селівонаўка |
| 6124 | 15:45 | 17:33 | | 6121 | 15:36 | 17:23 | |
| 6126 | 16:45 | 18:33 | | 6123 | 16:19 | 18:11 | |
| 6128 | 18:01 | 19:50 | | 7035 | 18:05 | 19:27 | Мінск–Маладзечна з пр.: Ждановічы, Мінск-Паўн.,далей да Гудагая з прыпынкамі па станцыях і пр.п. Маладзёжны |
| 6130 | 19:09 | 20:55 | | 6125 | 17:35 | 19:19 | |
| 6132 | 19:42 | 21:30 | | 6127 | 18:15 | 20:00 | б/пр.: Зялёнае |
| 6134 | 20:53 | 22:35 | | 6129 | 19:14 | 21:06 | |
| 7036 | 21:34 | 22:54 | Гудагай-Маладзечна з прыпынкамі па станцыях і прып. пункце Маладзёжны, далей да Мінска з прыпынкамі: Ждановічы, Мінск-Паўн. | 6131 | 20:45 | 22:31 | |
| 6136 | 22:17 | 23:55 | б/прып.: Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 66133 | 22:16 | 00:03 | б/пр.: Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

**Цягам перыяду дзеяння графіка магчымыя змяненні. Тэлефоны чыгуначнага вакзала ст. Маладзечна для даведак: (80176) 74-24-23, 105.**

Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна УНП 600199541

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.12 руб. | 17.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 18 259,00 | 18 310,00 |
| Еўра | 19 936,00 | 20 045,00 |
| Злоты | 4 589,88 | 4 622,36 |
| Расійскі рубель | 264,07 | 259,87 |
| Грыўня | 799,08 | |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 16.12** | | |
| Еўра | 19750/20000 | 20000/20250 |
| Долар ЗША | 18200/18360 | 18200/18370 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 10.12 | 16.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 138 700 | 144500 |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | 53800 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | 26800 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 85000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | 39800 |
| Селядзец, 1 кг | 48 800 | 45000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 135000 |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | 14000 |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | 17000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 15 000 | 14000 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | 23500 |
| Маянэз, 200 г | 5 500 | 5700 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 14500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | 39500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | 13000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 500 | 6900 |
| Часнок, 1 кг | 48 500 | 39000 |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | 4000 |
| Морква, 1 кг | 5000 | 5900 |
| Баклажаны, 1 кг | 48 000 | 48000 |
| Лімоны, 1 кг | 34 500 | 33000 |
| Апельсіны, 1 кг | 28 500 | 22900 |
| Мандарыны, 1 кг | 24 500 | 25000 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 28 000 | 30000 |
| Ківі, 1 кг | 27 500 | 33000 |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | 7000 |
| Памідоры, 1 кг | 18 500 | 25000 |
| Агуркі, 1 кг | 25 000 | 37000 |
| Перац, 1 кг | 42 900 | 48000 |
| Вінаград, 1 кг | 26 900 | 29000 |
| Бананы, 1 кг | 17 900 | 21000 |
| Хурма, 1 кг | 25 500 | 25500 |
| Шампіньёны св., 1 кг | 39 900 | 48000 |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | 12500 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 27 500 | 24900 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 18000 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10000 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 55000 |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | 4000 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 100000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | 25000 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 60000 |

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Вадзіцель падумаў, што наехаў на слуп, аказалася – на жанчыну

АШМЯНЫ

**12 снежня каля 9 раніцы ў Ашмянах аўтамабіль "Хундай", якім кіраваў 79-гадовы вадзіцель, наехаў на 80-гадовую пенсіянерку.**

З месца здарэння вадзіцель з'ехаў.

Але потым кіроўца патлумачыў супрацоўнікам ДАІ, што ён адчуў удар, але падумаў, што наехаў на прыдарожны слуп.

Як аказалася, вадзіцель наехаў на жанчыну ў той час, калі спрабаваў адрэгуляваць печку ў салоне аўтамабіля.

З раніцы ў машыне запацелі вокны, вадзіцель нахіліўся да печкі, каб наладзіць падачу паветра ў салон, і адцягну ўвагу ад кіравання. Аўтамабіль каціўся з горкі, калі адчуў штуршок.

Пенсіянер не звярнуў на гэта ўвагі і паехаў далей. Праз дзве гадзіны яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ.

Жанчына шпіталізаваная.

**Паводле gaigrodno.by.**

## Шукаюць гаспадара, які кінуў скутар на 4 месяцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля багажнага аддзялення на прывакзальнай плошчы ля чыгуначнага вакзала знайшлі скутар "Хорс Мотарс".**

Скутар не мае рэгістрацыйных знакаў.

Паводле відавочцаў, ён стаяў на плошчы каля чатырох месяцаў.

Просім сведкаў і відавочцаў, якія ведаюць, чый гэта скутар, звярнуцца ў міліцыю. Тэлефоны: (80176) 77-16-56, 74-53-43, (8044) 745-74-84 ці 102.

**Паводле паведамлення ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Мінчаніна падазраюць у забойстве пенсіянеркі

МАЛАДЗЕЧНА

**Трагедыя адбылася 8 снежня.**

У доме па вуліцы Інтэрнацыянальнай знайшлі цела 86-гадовай пенсіянеркі з мноствам пераломаў.

Падазраюць, што яе забіў 28-гадовы жыхар Мінска, раней неаднаразова судзімы. Пры гэтым, з загінулай пенсіянеркай маладзён раней знаёмы не быў.

Як трапіў ён ў кватэру пажылой маладзечанкі, высвятляе следства.

– Аднак агляд месца здарэння і ўлік, якія знайшлі супрацоўнікі РАУС на месцы забойства, дастаткова, каб даказаць віну мінчаніна, – расказаў "РГ" намеснік начальніка Маладзечанскага райаддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў**.

**Наталля ТУР.**

## Каб залезці ў хлеў, злодзей адарваў дошкі на франтоне даху

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося ў вёсцы Гарыдавічы Кураnецкага сельсавета ў адзін з дзён ад 5 да 11 снежня.**

Непарадкі на падворку лецішча заўважыў жыхар суседняй вёскі і патэлефанаваў гаспадару – жыхару Вілейкі. Той прыехаў і ўбачыў, што вырваныя некалькі дошак на франтоне даху хлява – якраз дастаткова для таго, каб можна было пралезці.

Калі гаспадар адчыніў дзверы і зайшоў унутр, то заўважыў, што нямагчыма бензапілы і бензатрымера.

Страты ацанілі ў дзевяць з паловай мільёнаў рублёў.

Узбудзілі крымінальную справа за крадзеж, расказаў следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Вадзім Пуцэйка**.

**Аддзел інфармацыі.**



У абодвух здарэннях кіроўцы не заўважылі пешаходаў.

Фота blamper.ru.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Дзве жанчыны трапілі пад колы на пешаходным пераходзе

МАЛАДЗЕЧНА

**У адным са здарэнняў кіроўца, якая наехала на пешахода, спачатку выйшла і спыталася, як адчувае сябе пацярпелая, а потым завярнулася і з'ехала з месца здарэння.**

Пра здарэнні распавёў "РГ" дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

### Наехаў на 73-гадовую жанчыну

11 снежня каля 8 гадзін раніцы 24-гадовы маладзечанец на "Хундаі І30" ехаў па вуліцы Будаўнікоў з боку Скарыны.

На пешаходным пераходзе каля "Дома быту" ён наехаў на 73-гадовую жанчыну.

Як пасля патлумачыў кіроўца, ён проста не заўважыў жанчыну. Убачыць яе замінала машына, якая ў гэты час ехала ў сустрэчным накірунку.

Пацярпелую маладзечанку даставілі ў прыёмны пакой Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы. Падчас удару яна пашкодзіла звязкі галёнкаступнёвага сустава, атрымала ўдар грудзіны і лба, ранкі на губе. Жанчыну адпусцілі дамоў.

На кіроўцу склалі адміністрацыйны пратакол.

### З'ехала з месца здарэння

У нядзелю, 13 снежня, 31-гадовая маладзечанка на "Сітраэне-Гранд С4 Пікаса" ехала па Вялікім Гасцінцы ў накірунку Смаргоні.

Падчас левага павароту на вуліцу Драздовіча яна наехала на 56-гадовую маладзечанку, якая пераходзіла дарогу па пешаходным пераходзе.

Па словах пацярпелай, кіроўца выйшла з машыны, падышла і пачала размаўляць, дапамагала падняцца. Аднак пасля таго, як пацярпелая сказала, што будзе выклікаць ДАІ, кіроўца села і з'ехала з месца здарэння ў накірунку Насілава.

Пацярпелая заявіла ў міліцыю.

Кіроўцу "Сітраэна" затрымалі ў той жа дзень каля 21 гадзіны на перакрыжаванні Касманаўтаў і Магістральнай. Жанчыну даставілі ў РАУС для далейшага разбіральніцтва.

На кіроўцу склалі два пратаколы: за наезд і за тое, што з'ехала з месца здарэння.

**Настасся РОЎДА.**

## У аўтамабілі падчас руху адказалі тармазы

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 8 гадзін раніцы ў панядзелак, 14 снежня, на перакрыжаванні Гарадоцкай і Вялікага Гасцінца, распавёў "РГ" дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош.

Кіроўца "Сітраэна С5" ехаў па Вялікім Гасцінцы ў бок Мінска па крайняй левай паласе.

У тым жа накірунку, але па крайняй правай паласе, рухалася і кіроўца аўто "Фольксваген-Туран".

Абодва праязджалі на зялёнае святло.

У гэты час з боку вуліцы Гарадоцкай на чырвонае святло выехала кіроўца "Сітраэна-Ксанцыі". У яе аўтамабілі адказала тармазная сістэма, у выніку чаго і адбылося ДТЗ.

Тры машыны, а таксама святлафор атрымалі пашкоджанні.

26-гадовая кіроўца "Сітраэна-Ксанцыі" не паездзіла за рулём і трох тыдняў. Яна атрымала правы 27 лістапада.

## Дзяржаўтаінспекцыя паразмаўляе з работнікамі арганізацый

МАЛАДЗЕЧНА

18 снежня Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна ладзіць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху "Паважаеш іншых – паважаеш сябе!".

Супрацоўнікі міліцыі грамадскай бяспекі Маладзечанскага РАУС правядуць сустрэчы з працоўнымі калектывамі арганізацый і прадпрыемстваў. Дадуць рэкамендацыі пешаходам і веласіпедыстам па бяспечных паводзінах на дарозе, а таксама кіроўцам, якія мусяць быць надзвычай пільнымі.

Акцыя ладзіцца для таго, каб павысіць культуру кіравання і нагадаць пра важнасць узаемнай павагі ўдзельнікаў дарожнага руху.

**Настасся РОЎДА.**

● ВОЛЬНЫ ЧАС

# Скейт-парк са сцэнай з'явіцца ў вілейскім парку на месцы танцпляцоўкі

## У чэрвені ў Вілейцы пройдзе фестываль моладзевых субкультур

ВІЛЕЙКА

**На падрыхтоўку і правядзенне фестывалю выдзелена 18 тысяч долараў ЗША. Адбылося гэта дзякуючы перамозе віляйчан у конкурсе мясцовых ініцыятыў праекта ЕС/ ПРААН "Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь". Ініцыятарам правядзення фестывалю стала грамадскае аб'яднанне па ўстойлівым развіцці Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК".**



Фота забяспечана Яўгенам РУСАКОМ.

Ураджэнец Вілейкі Яўген Русак, які ўдзельнічаў у стварэнні эскізнага праекта скейт-парку, захапляецца скейтбордынгам восем год.

### Як з'явілася ідэя фестывалю

– Яе прыдумалі зыходзячы з захапленняў моладзі і іх пажаданняў, – расказвае намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – Ёсць у Вілейцы скейтбардысты, можна іх бачыць на цэнтральнай плошчы. Таму падумалі: "Чаму б і не зрабіць скейт-парк на месцы танцпляцоўкі?" Яна страціла ўжо актуальнасць, а месца там хапае. І разам з гэтым правесці фестываль. Бо ў нас моладзь актыўная, захапляецца моднымі стылямі і ў спорце, і творчасці.

У парку можна сабраць усю моладзь разам, стварыць мноства розных пляцовак. Фестываль атрымаецца як пляцоўка для розных творчых эксперыментаў, дзе кожны зможа паказаць сваё майстэрства, лічаць арганізатары.

У фестывалі моладзевых субкультур "Энергія маладосці" змогуць паўдзельнічаць рокеры і рэперы, гістарычныя рэканструктары і байкеры, скейтбардысты, аматары воркаўта і паркура, графіцісты і іншыя.

### Гатовы эскізны праект парку

Віляйчане ўдзельнічалі ў конкурсе з праектам фестывалю другі раз – і цяпер удалося перамагчы. Лічаць, што паспрыяла перамозе тое, што праект удасканалілі. Ды і тое, што гарадскі парк апошнім часам значна змяніўся. Сярод іншага там з'явіліся дзіцячая пляцоўка і пляцоўка для воркаўта, правялі добраўпарадкаванне.

У межах праекта і далей будуць уладкоўваць гарадскі парк. Да фестывалю на месцы танцпляцоўкі з'явіцца скейт-парк, сумешчаны з опэн-эйр сцэнай. Сцэну мадэрнізуюць, абсталяванне для скейтбордынга дапоўніць яе. Будуць месцы для гледачоў.

– Бачым, што моладзь падтрымлівае праект фестывалю. Скажам, як даведаліся скейтбардысты, што будзе такі парк, самі прыйшлі і сказалі, што гатовы дапамагаць у яго стварэнні, – кажа Вольга Шляпо.

Эскізны праект скейт-парку ўжо гатовы. Над ім працавалі галоўны спецыяліст аддзела архітэктуры райвыканкама **Дзмітры Гарланаў** і ўраджэнцы Вілейкі, студэнтка архітэктурнага факультэта БНТУ **Яна Вярбіцкая** і скейтар са стажам **Яўген Русак**.

У бліжэйшы час закупяць абсталяванне для скейт-парку, правядуць конкурс на распрацоўку лагатыпу фестывалю. І будуць збіраць заяўкі на ўдзел. Мяркуюць, што ў чэрвені збярэцца на фестываль не толькі вілейская моладзь, а прыедзе і з іншых гарадоў.




Выява забяспечана стваральнікамі эскізнага праекта.

Такім бачаць скейт-парк у Вілейцы.

### Фестываль як брэнд Вілейкі

Чым для Вілейкі можа стаць фестываль? – пытаю ў Вольгі.

– Добрым рэкламным мерапрыемствам. Ён падыме прэстыж і нашага горада, і нашай моладзі. А яшчэ вырашыць праблему вольнага часу: моладзі будзе дзе сябе рэалізаваць.

Плануюць, што фестываль не стане разавым мерапрыемствам. У тым ці іншым фармаце плануюць праводзіць яго і надалей.

– Можа, ён стане адным з брэндаў нашага горада, – разважае Вольга Шляпо. – Хочам, каб Вілейка была моладзевым горадам. Каб моладзі тут было ўтульна і добра, яна заставалася жыць у Вілейцы і ганарылася сваім горадам.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Скэйтбордынг – экстрэмальны від спорту, які заключаецца ў катанні, а таксама ў выкананні розных трукаў на скейтбордзе.



● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

### Ягорка Валчкоў хоча хадзіць

Але яму неабходная ваша дапамога.

Цяпер яму 10 гадоў. Ён вучыцца ў звычайнай школе ў Светлагорску сярод звычайных дзяцей. І сам – звычайны хлопчык. Любіць камп'ютар і мае сяброў, у яго ёсць старэйшы брат, з якога хочацца браць прыклад ува ўсім, любіць бацькоў, паважае настаўнікаў. Любімыя прадметы – матэматыка і англійская мова. Ён не адстае ад аднагодкаў і стараецца быць першым ва ўсім... На прагулку бярэ хлеб для птушак, кавалачак кілбаскі для бяздомнага ката...

Вось толькі хадзіць самастойна Ягор не можа. "Сэрца разрываецца ад болю, калі ён смірна сядзіць і глядзіць на гарэзлівых дзяцей, уседамляючы сваю непаўнацэннасць", – піша яго мама **Іна Валчкова**.

Ягор лячыўся ў розных клініках і санаторыях Беларусі, Літвы. Але з яго дыягназам (ДЦП, статычная дыплегія 2-й ступені) надзея ўзнікла толькі тады, калі яны прайшлі першы рэабілітацыйны курс у цэнтры "Алінэк" у Варшаве. Каб дабіцца эфекту, трэба рэабілітацыю прадоўжыць. Але яна, як і купля спецыяльнага медыцынскага рыштунку, патрабуе немалых грошай, якіх у сям'і няма. Мама даглядае за Ягоркам. Працуе толькі тата. Старэйшы брат Ягора яшчэ вучыцца ў школе. Толькі выраб артэзаў (спецыяльны артапедычны абутак) каштаваў Валчковым 1000 еўра.

Вы можаце дапамагчы Ягору, калі пералічыце грошы на адзін з дабрачынных рахункаў:

**Беларускія рублі** – транзітны рахунак 3819990019478 на дабрачынны рахунак 000032 у цэнтры банкаўскіх паслуг 322, г. Светлагорск, вул. Мірашнічэнкі, 21, УНП 400230362, МФО 151501673, бестэрміновы

**Долары ЗША** – транзітны рахунак 3819990019407 на дабрачынны рахунак 000055 у цэнтры банкаўскіх паслуг 322, г. Светлагорск, вул. Мірашнічэнкі, 21, УНП 400230362, МФО 151501673, бестэрміновы

**Еўра** – транзітны рахунак 3819990019407 на дабрачынны рахунак 000013 у цэнтры банкаўскіх паслуг 322, г. Светлагорск, вул. Мірашнічэнкі, 21, УНП 400230362, МФО 151501673, бестэрміновы.

**Прызначэнне плацяжу:** Валчкова Іна Якаўлеўна на карысць сына Валчкова Ягора Андрэевіча для лячэння і рэабілітацыі за межамі Беларусі.

**Старонка дапамогі Ягору на сайце Беларусбанка:** http://belarusbank.by/ru/30394/blagotvoritelnost/3220.

НАВІНЫ

## Пройдзе навагодняе свята з шэсцем Дзядоў Марозаў

ВІЛЕЙКА

На цэнтральнай плошчы горада на 27 снежня намечанае навагодняе свята "У гасцях у Дзеда Мароза". У межах яго пройдзе шэсце Дзядоў Марозаў.

Па традыцыі ўдзел у ім прымаюць прадстаўнікі працоўных калектываў горада і раёна.

Каманды арганізуюць свае рэзідэнцыі Дзеда Мароза, пакажуць гульнявую праграму і пачастуюць дзяцей. Лепшыя каманды ўзнагародзяць.

Пачатак – у 12 гадзін.

## "За двума зайцамі" па-вілейску

ВІЛЕЙКА

Зноў напярэдадні Новага года ў Палацы культуры пакажуць музычнае шоу.

Летась на сцэну перанеслі фільм "Іронія лёсу, або З лёгкай парай", а сёлета гледачы пабачаць вілейскую версію тэлевізійнага мюзікла "За двума зайцамі". Яго знялі ў 2003 годзе, галоўныя ролі выканалі **Максім Галкін**, **Ала Пугачова** і **Андрэй Данілка.**

У шоу прымуць удзел лепшыя мясцовыя артысты. Галоўныя ролі выканаюць **Андрэй Дударчык** і **Ганна Раенка.**

Прагучаць песні, адбудуцца конкурсы і розыгрышы прызоў, расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Шоу запланаванае на 18 гадзін 29 снежня. Уваход платны.

Аддзел інфармацыі.

АРХЕАЛОГІЯ

# Што знайшлі падчас раскопак гуты ля Ільы

ВІЛЕЙКА

**Археалагічныя раскопкі шкларобчай майстэрні, ці гуты праводзілі ў верасні. Майстэрня знаходзілася паміж вёскамі Старая Гута і Ілья Вілейскага раёна ў сярэдзіне 18 – пачатку 19 ст.**



Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.

Падчас раскопак гуты на Вілейшчыне. Кіраўнік вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў Дзяніс Канецкі і кіраўнік раскопак Паліна Курловіч-Бяляўская.

Даследаванні вялі на двух участках. На месцы майстэрні сабралі шматлікі пад'ёмны матэрыял і заклалі шурф памерамі 2х2 метры. Знайшлі шмат шкляных шлакаў, аплаўкі, кропелькі шкламасы, нарыхтоўкі для выдзімання вырабаў, таўстасценную кераміку, фрагменты цэглы, жалезныя цвікі.

Культурны слой моцна насычаны вугалем і попелам. У паўднёва-заходняй частцы шурфа знайшлі канструкцыю з цэглы-пальчаткі 18 стагоддзя, якую папярэдне палічылі печчу. Шурф закансервавалі, працу на ім плануюць працягнуць у наступным палявым сезоне.

### Ружова-фіялетавае шкло і дзенга

Асноўныя даследчыя працы вялі на ўчастку паміж вёскамі Старая Гута і Ілья. Ускрылі 68 квадратных метраў. Тут знайшлі матэрыялы, якія існавалі адначасова з гутай. Сярод найбольш цікавых знаходак – кавалкі шкламасы светла-зялёнага, цёмна-зялёнага і ружова-фіялетавага адценняў. Фрагменты высакаякаснага шклянога посуду, які маглі дадаваць у склад шыхты, шкляныя нарыхтоўкі – рознага кшталту трубачкі, а таксама шкляныя абрэзкі ад вырабаў, у тым ліку са слядамі інструментаў, якімі карыстаўся майстар-шклароб. Фрагменты керамікі, цэглы і вырабаў з жалеза.

Знайшлі і манеты, якія сведчаць, што знойдзеныя матэрыялы адпавядаюць па часе дзейнасці гуты. Найбольш ранняя манета – дзенга 1747 года, найбольш позняя – сярэбраны рубель 1792 года.

### Гаспадары гуты

Па пісьмовых крыніцах гута ў Ільі вядомая ад 1746 года. Яе заснавалі браты **Юзаф** і **Антоні Салагубы**. Пазней яна перайшла да апошняга сына – **Яна**, які ў 1792 годзе прадаў Ілью разам з іншымі сваімі маёнткамі вялікаму падскарбію Вялікага Княства Літоўскага **Міхалу Клеафасу Агінскаму**. За ўдзел у паўстанні 1794 года яго маёмасць канфіскавалі ў расійскую казну, а затым Кацярына ІІ перадала графу-фельдмаршалу **Мікалаю Салтыкову**.

У пачатку 19 стагоддзя гуту арандаваў віленскі яўрэй **Герца Якубовіч**. У 1804–1806 гадах маёнткам Ілья разам з гутай валодаў генерал-маёр **Здзяхоўскі**, а затым іх набыў мінскі губернскі маршалак **Іосіф Валашкевіч**. У 1815 годзе шкляную вытворчасць перанеслі з ваколіцаў Ільі (Старая Гута) ў ваколіцы цяперашняй вёскі Новая Гута, дзе яна была лепш забяспечаная сыравінай.

### Падзяка тым, хто дапамог

Кіраўнік экспедыцыі дзякуе ўсім валанцёрам, якія ўдзельнічалі ў раскопках. Іх якасная і сумленная праца дапамагла знайсці ўнікальную навуковую інфармацыю па арганізацыі дзейнасці гуты.

Дзякуе дырэктару і супрацоўнікам Залескага комплексу дзіцячы садок – сярэдняя школа ў пасёлку Партызанскі за дапамогу ў арганізацыі жылля ўдзельнікаў экспедыцыі, а таксама сябрам вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага і ўсім неабыякавым жыхарам вёсак Ілья і Старая Гута.

Паліна КУРЛОВІЧ-БЯЛЯЎСКАЯ,
кіраўнік раскопак, аспірант аддзела захавання і выкарыстання археалагічнай спадчыны Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**Даведка "РГ".** **Шурф** – паглыбленне ў зямлі, якое робяць для пошуку археалагічных дадзеных.
**Шыхта** – сумесь зыходных матэрыялаў ці паліва ў пэўнай прапорцыі, якую перапрацоўваюць у металургічных, хімічных і іншых агрэгатах.
**Дзенга** – зборная назва старажытнарускіх манет.

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**☎166**

Рэгіянальная газета. Rh.by Тэлетыдзень ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!



Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі 100 С-4, 1992 г.в, 2,3Б, у добрым стане. Т. (8-029) 3056139.*

• Аўдзі А-6, 1995 г.в, 2,0 бензін, універсал. Т. Вэлком (8-029) 6466652, МТС (8-029) 5722940.

• ВАЗ-21093, 2004 г.в, 1,5і, 27 900 000 руб, торг. Т. (8-025) 5344461.

• ВАЗ-2121 Ніва, 1982 г.в, выдатны стан. Т. (8-029) 6307110.

• Гольф 3, 1996 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.*

• Ніва-2121, 1990 г.в,.Т. (8-029) 6535778.

• Опель-Астра, 2013 г., 90 000 000 руб. Гольф-6, 2012 г., 80 000 000 руб. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Вектра, 1999 г.в., 2,0 дызель, хэтчбэк, 5-дзверны, серабрысты металік, фаркоп, добры стан. Т. МТС (8-029) 7005425.

• Рэно-Велсаціс, 2003 г.в, 2,2 дсі, колер хамелеон, усё працуе, замененае масла, рэмень, 76 000 000 руб. Т. (8-029) 7046266.*

• Рэно-Канга, 1998 г.в, 1,2 бензін, 300 тыс. км + камплект гумы, 47 000 000 руб. Т. (8-01776) 778888, (8-029) 6654868.*

• Рэно-Лагуна, 1996 г.в., нядорага. Т. (8-029) 3437131.*

• Сітраэн-Джампер, 2003 г.в, 7+1 месца, выдатны стан,кандыцыянер, вебаста, ц.замок, эл. шкло. Т. (8-029) 6307110.

• ФВ Гольф, 12.1999 г.в, 1,9 ТДІ. Т. (8-044) 7700274.*

• ФВ-Пасат Б3, 1988 г.в, 1,8 мона, выдатны стан, 47 500 000 руб, Маладзечна. Т. (8-029) 8573858.

• ФВ Т2, 1989 г.в, 1,6 дызель, легкавы. Т. (8-029) 8609061.

• Форд-Фіеста, 1992 г.в, 1,1 бензін, чырвоны, добры стан, 13 000 000 руб, торг. Т. (8-025) 7885936.

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*

• Запчасткі да Сітраэн-Ксара-Пікаса. т. (8-029) 7763394.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Мерседэс-190, 2.0 Д, 1992 г. Т. (8-029) 1780867.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

### ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, агул. пл. 39,3 кв.м, часткова з выгодамі, халодная вада, пячное ацяпленне, цэнтр. каналізацыя, 300 000 000 руб, тэмінова. Т. (8-029) 7716848.

• 3-пакаёвая кватэра на два бакі 5/9 цаглянага дома па вул. Будаўнікоў. 64,7/39,8/8,0, с/в раздзельны, балкон + лоджыя, 1 038 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5587283, Вэлком (8-044) 7027735.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. 1 Мая, нядорага. Т. МТС (8-029) 2694696.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 70,1 кв.м, часткова з мэбляй. Т. (8-029) 1281771.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 66 кв.м, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111, (8-029) 3555444.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, 3/5 панэль, 61,4/39,1/9,1 кв. м, с/в раздз., шклопакеты, лоджыя ці абмен на 2-пакаёвую кватэру ў Заслаўі ці Мінскім раёне. Т. (8-029) 3462960.

• 3-пакаёвая кватэра, дом у цэнтры Вілейкі. Т. (8-01771) 28073, (8-033) 6041497, МТС (8-029) 7125425.

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5459808.*

• Гараж у ГК Маладзечна (ускраіна), 75 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885.*

• Гараж у ГК 32 Маладзечна (Фестывальны), пліты перакрыцця, патынкаваны, высокі, цана 135 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885, 7601272.*

• Дом з мэбляй у цэнтры Залінейнага р-на Маладзечна, агул. пл. 80 кв.м, 4 пакоі, газ, ванна, с/в, шклопакеты, дзверы двайныя, гаспадарчыя пабудовы, сад, цяпліцы, 7,5 соткі, тэрмінова, 900 000 000 руб., торг. Т. (8-029) 9799267.

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участак 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармлены. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у в. Каз'яны Віцебскай вобл., Дубровенскі раён, 92 000 000 руб. Т, (8-0176) 726385 пасля 18 гадзін.

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у в. Палачаны, нядорага. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3618077, Вэлком (8-044) 7750241.*

• Дом у вёсцы з надворнымі пабудовамі. Т. МТС (8-029) 2568748.*

• Домік 1920 г.п, хлеўчык, калодзеж, зямля ў в.Глебенкі Вілейскага р-на. Лес, рака 3 км. 4 000 000 руб., торг да месца. Т. МТС (8-033) 3021308.

### КУПЛЮ

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 5690706.*

• Дом, дачу, участак. Т. (8-044) 5142839.

### ЗДАМ

• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Ларына, 5-а на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 1282652.*

• Вазьму пажылога адзінокага мужчыну на сваю жылплошчу ў Вілейцы. Т. (8-0290 5113891.

• Кватэру ў в. Асіпавічы, нядорага. Т. (8-029) 7043307.

• Ларкі ў арэнду ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7016721.*

• Ралет у арэнду,12 кв. м, у цэнтры Ашмянаў, 1 000 000 руб / месяц. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### ІНШАЕ

• Запрашаем у долевае будаўніцтва гандлёва-забаўляльнага цэнтра і піцэрыі-кафетэрыя ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 6585363, (8-029) 7005039. ТАА "Гандлёва-забаўляльны цэнтр "Нераст" УНП 691175800.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерседэс, 4,5 х 2 х 2,15, да 3,5 т, санпашпарт, санкніжка, без выхадных. ІП Шыкін А.В. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на правядзенне карпаратываў. Т. (8-029) 6650884, (8-029) 8726471.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонныя, дахавыя, аддзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Невяровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• Выраб і ўстаноўка міжпаверховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **МАНТАЖ, ДЭМАНТАЖ ДАХАЎ, УЦЯПЛЕННЕ ДАМОЎ ПАД КЛЮЧ, АФАРБОЎКА, ВАДАСЦЁЧКА, АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ І ІНШ.** Шпатлёўка. Ламінат. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• **НАВАГОДНІЯ КАРПАРАТЫВЫ,** банкеты, сучасная праграма **ДЗЕДА МАРОЗА І СНЯГУРАЧКІ,** прафесійны вядучы, жывая музыка, выдатныя гук і святло. Выезд ва ўсе рэгёны. Т. (8-029) 2779065.*

• Печніка. Любое ацяпленне. ІП Ціхановіч А.С. УНП 191091444. Т. (8-029) 2599940, www.940.by.*

• Разныя (резные) вырабы: http: //vk.com/album-89841448_212974102. УНП КА 8273795. Т. (8-025) 9663109.*

• Рамонт і абслугоўванне воданагравальнікаў і пральных машын. ІП Трыпуцька А.С. УНП 691894755. Т. (8-044) 7525252*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт катэджаў, офісаў, кватэр; добрая якасць па памяркоўных цэнах. ІП Балееў І.І. УНП 691502137. Т. (8-033) 6660555.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.

• Рамонт халадзільнікаў, марозільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Распілоўка лесу с выездам да заказчыка — дошка, брус, кроквенная (стропільная) сістэма. Нізкія цэны. ІП Гардзей Е.В. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Электрык да вашых паслуг. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

• Усё для даху: металачарапіца, прафнасціл, андулін, гнуткая чарапіца, фальцавая чарапіца, керамапласт, металаштакетнік. Поўная камплектацыя, замер, дастаўка, гарантыя. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Прычэп да матаблока. Т. (8-029) 9375945.*

• Трактар Т-16, усе дакументы, запчасткі. Т. (8-033) 3536184, (8-029) 8653754.*

**Бытавая тэхніка**

• Швейная машына "Зінгер" за 1 млн. руб у Вілейцы.Т. МТС (8-029) 5113891.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
Рассрочка без % 8-029-570-22-12 8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

**Мэбля**

• Дзіцячая секцыя "Юніёр" (Польшча), марская калекцыя, тахта "Карапуз", камп'ютарны стол вуглавы. Т. (8-029) 7799526, (8-0176) 783012.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты в'етнамскай пароды, прышчэпленыя, нядорага. Маладзечна. Т. (8-029) 8559757, (8-029) 1258777.

• Шчаняты ёркшырскага тэр'ера, міні, без радаслоўнай. Т. (8-029) 7798966.*

• Ярачкі і баранчыкі пароды тэксель, узрост 4 месяцы. Т. (8-029) 6633885.*

**Іншае**

• Бульба дробная і насенная разам. Т. (8-029) 8538838.

• Дзверы б/у на 3-пакаёвую кватэру, міжпакаёвыя, зашклёныя. Танна. Т. МТС (8-033) 6028612.

• Дровы на дачы. Т. (8-029) 2609392. Т. (8-029) 2609392.

• Дровы ў Маладзечне. Т. (8-029) 2313231.

**Размясці сваю аб'яву не менш за ТРЫ РАЗЫ, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by**

• Дровы, дробную бульбу. Вілейскі р-н. Т. Вел. (8-029) 3405845.*

• Еўрадровы ў Маладзечне. Т. (8-029) 2789572.

• Каляска прагулачная,1 год б/у, 800 000 руб, выдатны стан. Маладзечна. Т. (8-029) 5045977.

• Кінатэатр дамашні, новы. Т. Вэлком (8-029) 9665593.

• Матрац,195/140, б/у. Маладзечна. Т. 773410, (8-029) 9554898.

• Навагодніе касцюмы: Дзеда Мароза, Снягурачкі, гноміка, Маладзечна. Т. (8-029) 5503071.

• Станок для вытворчасці сеткі рабіцы, паўаўтамат 220В. Т. Вэлком (8-029) 6466652, МТС (8-029) 5722940.

• Стэвія прарошчаная, як замяняльнік цукру. Т. (8-025) 7183862.

• Тапачкі валеныя. Звалю да 40 памеру. Т. (8-025) 9870194.

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Матаблок МТЗ, аўтапрычэп, нядорага, матацыкл Мінск. Т. (8-029) 6299208.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёлу**

• Кабана, свіней. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ДОРАГА! БЕЗ ПАСРЭДНІКАЎ. ВЫЕЗД!** Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• **ІНГАЛЯТАР ВЫТВОРЧАСЦІ ВА "ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ", НЕ ЎЖЫВАНЫ. Т. (8-029) 6550799.***

• Каталізатар, можна нерабочы. Маладзечна. Т. (8-029) 9039504.

• Кнігу "Памяць" Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мінскага, Лагойскага раёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Монакуляр, бінокль маркі. Т. (8-029) 5019550.*

• Шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленае пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі Глінскага І.І. №691393312. Тел. (8-0176) 723729, (8-029) 6040936.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Настаўнік французскай мовы шукае падпрацоўку. Т. (8-044) 5640163.*

• Усе віды аддзелачных работ, гіпсакардон, плітка, ламінат, пластык і інш. Т. (8-044) 5137340.*

• Шукаю работу: гіпсакардон, сайдынг, вагонка, блокхаўс, устаноўка аконных і дзвярных блокаў, сантэхніка, плітка і інш. Т. МТС (8-029) 5613129.

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
Т. **(8-044) 777-44-48, (8-044) 484-65-90, (8-029) 393-92-56.**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

Куплю
**быков, телят коров**
*по высоким ценам.*
Тел. **8-044 560-62-02, 8-033 364-38-38.**
ИП Настусевич Е.В. УНП 590818711

УНП 100025811 ООО "ОП НИК ЛКД"
**ТРЕБУЮТСЯ ВОДИТЕЛИ категории «Е»**
международные грузоперевозки
оплата труда договорная
**(017) 344 92 41, (017) 294 97 50, (029) 610 04 13, (029) 349 19 57**



**Двери металлические** РБ, РФ от простых до элитных
**Образцы находятся: Молодечно, В. Гастинец, 143А, магазин «Соседи», 1-й этаж**
**Молодечно, Б. Хмельницкого, 3Г, здание администрации рынка, 2-й этаж**
**Купляйце беларускае!**
Выезд в регионы. Рассрочка от производителя!
**(8-0176) 74-97-97, (8-029) 777-22-74, (8-029) 916-83-16**
ИП Жук А.А. УНП 690417697

■ ПЕЧИ ДЛЯ БАНИ
■ БАКИ
■ ЕМКОСТИ — для воды
*ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ*
**www.svarimvse.by**
Тел. **8-044-743-59-27**
ИП Нестерович УНП 691171264

КУПЛЮ ДОРОГО
**ГОВЯДИНУ КОНИНУ БЫКА**
**живым и убойным весом**
Производим вынужденный дорез
**8(044)713-50-80, 8(029)843-14-94**
ИП Крайнюк УНП 790604134

**ЗАКУПАЕМ лошадей, коров, быков**
**Закупаем по месту жительства живым весом**
Тел. Велком (8-029) 60-65-386
ИП Кевра А.С. УНП 590818581

# Ветэрынар – не чараўнік. Па тэлефоне дыягназ не паставіць

МАЛАДЗЕЧНА

**Здараецца, што дамашнія любімцы, заўсёды жвавыя і пражорлівыя, раптам губляюць цікавасць да вас, да цацак, да свежай порцыі любімага ласунку. Жывёла захварэла.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Не важна, ці купілі вы пародзістага ката або ўзялі проста на рынку, клапаціцца пра іх здароўе трэба аднолькава.

Вядома, яе трэба адразу паказаць ветэрынару, але здараецца, што кот ці сабака захварэў тады, калі паблізу няма доктара, а дапамогі патрабуе неадкладна.

Ветэрынарны доктар **Людміла Гірдзюк** дае карысныя парады тым, хто трымае дома катоў.

### Жывёла атруцілася

Першае, што трэба зрабіць, калі жывёла атруцілася, – даць актываваны вугаль.

І, у адрозненне ад чалавека, кату ці сабаку нельга даваць піць, калі яны атруціліся. Таму што вада выклікае яшчэ большы ванітаваны рэфлекс.

### Жывёла паранілася

Калі ваш кот ці сабака парэзаўся, яму неабходна накласці жгут вышэй раны.

Апрацаваць рану антысептыкам, але ні ў якім разе не зялёнкай. Яна сушыць скуру, і жывёла пачынае вылізваць гэтае месца, яшчэ больш драпаючы яго.

### Цыстыт, капрастаз і іншыя хваробы, якія падсцерагаюць вашага дамашняга гадаванца

– Калі б мы ведалі, па якой прычыне ў жывёл развіваецца мочакаменная хвароба, мы б атрымалі Нобелеўскую прэмію, – кажа Людміла Іванаўна. – Жывёлы, што жывуць на вуліцы, могуць самі сябе лячыць нейкімі траўкамі, дамашнія ж такой магчымасці не маюць. Таму ім трэба дапамагаць, даваць адзін раз на чатыры месяцы прэпарат катэрвін.

Яшчэ адна хвароба, на якую часта хварэюць дамашнія каты, – гэта цыстыт. Асабліва да яе схільныя жывёлы, у якіх залішняя вага. Зімой яны садзяцца на халоднае падваконне, ад гэтага могуць застудзіцца.

Зразумець, што ў вашай жывёлы цыстыт, вельмі проста: кот радка ходзіць у туалет або доўгі час сядзіць там, пакідае пасля сябе маленькія лужынкі, а жывот у яго надзьмуты, нібы шарык.

Першая дапамога пры цыстыце – пасадзіць жывёлу ў цёплую ванну, прыкласці да жывата грэлку. І ні ў якім разе не даваць піць – ад гэтага жывёле будзе толькі хацецца ў туалет. Памераць тэмпературу і, калі яна высокая, даць чвэрць таблеткі анальгіну.

**Ні ў якім разе не парацэтамол і не аспірын – гэтыя лекі для жывёлы смерць.**

– Каты – гэта ўвогуле іншапланецяне, – тлумачыць ветэрынар. – Тое, што лечыць чалавека, можа нашкодзіць кату.

Калі кот пакаштаваў напаўняльнік з туалета – гэта можа прывесці да капрастазу.

Капрастазам называюць закаркоўванне кішэчніка. Напаўняльнік для туалета лепей купляць драўляны, а не сіліконагелевы. Такі вельмі любяць каштаваць на зуб кацяняты, ад гэтага і адбываецца закаркоўванне.

Адзінае выйсце дапамагчы кату пры капрастазе – рабіць аперацыю.

– Бачылі б вы, што даводзілася даставаць з ката: поўсць, пацеркі, пер'е, ніткі, – кажа Людміла Гірдзюк. – Відовішча не для тых, у каго слабыя нервы. А напярэдадні Новага года яшчэ адна праблема – дожджык. Ён намотваецца на кішэчнік, быццам гірлянда.

Лепшая прафілактыка ад гэтай хваробы – пасеяць для дамашняга гадаванца траву ці ячмень. Даваць спецыяльныя падушачкі для выганкі поўсці.

### "Мой кот есць лепш за мяне"

Некаторыя гаспадары прыходзяць да дактароў з такой заявай. На што Людміла Іванаўна адказвае:

– Чым лепей есць ваш кот, тым мы потым яго даўжэй лечым. Каты – гэта драпежнікі, іх нельга закармліваць.

Вялікая памылка гаспадароў карміць ката адначасова сухім кормам і звычайнай ежай. Яшчэ большая памылка – заўсёды пакідаць ежу ў місцы.

Карміць жывёлу трэба па рэжыме. Тады і абмен рэчываў у яе будзе правільны.

Нельга, па словах ветэрынара, даваць катам сырую рыбу, асабліва рачную. Не карміце іх сырой печанню. Такія прадукты трэба хаця б абварыць кіпенем.

– Кот – гэта не памыйнае вядро, каб яму даваць усё, што ні ясце самі. Завялі гадаванца – адказвайце за яго.

### Форткі і адкрытыя вокны таксама небяспека для катоў

Гаспадарам, у якіх дома жывуць цікаўныя каты, варта памятаць, што адкрытыя вокны і якія стаяць на праветрыванне ўяўляюць для гадаванца пагрозу.

Фортка, адкрытая на праветрыванне, значна больш небяспечная. Таму што ў жывёлы, якая захрасне ў ёй, амаль адразу наступае паралюш задніх канечнасцяў, перастаюць працаваць унутраныя органы. У такіх выпадках амаль немагчыма выратаваць жывёліну, давядзецца яе ўсыпіць.

Што датычыцца адкрытых вокнаў, то для ката большыя наступствы можа выклікаць падзенне з другога паверха, чым з пятага. Чым з большай вышыні падае кот, тым больш у яго часу згрупавацца.

Таму нашмат часцей жывёла разбіваецца насмерць, калі падае з невялікай вышыні.

Калі кот валіўся з акна, трэба яго ўважліва агледзець, ці няма пераломаў, ці не ідзе кроў.

– У нас часта бывае, што з жывёлай усё ў парадку, у яе проста шок, а вось гаспадароў даводзіцца адкачваць. Не панікуйце, пакіньце ката ў цёмным памяшканні. Калі з ім усё нармальна, ён ачуне.

Яшчэ адна небяспека для катоў – гэта атрутныя дамашнія расліны.

– Аднойчы ў нас быў выпадак, калі жанчына прывезла ката, які ледзьве не захлынаўся слінай. Паставілі кропельніцу. Пытаюся ў гаспадыні, што еў кот. Тая адказвае, што нічога, так, куснуў адзін раз ствол дыфенбахіі.

Людміла Іванаўна кажа, што яе мабільны тэлефон даступны круглыя суткі.

– Даводзілася ратаваць жывёл і ноччу, прыязджала, адкрывала клініку. Але здараецца, што нейкая апантаная гаспадыня тэлефануе ўсю ноч з пытаннем, прабачце за выраз: "Ой, мы не так пернулі". А на раніцу не прыязджаюць увогуле.

Людміла Іванаўна вельмі не любіць, калі кансультуюцца з ёй па тэлефоне:

– Я ж не чараўнік і не Кашпіроўскі, каб завочна паставіць дыягназ.

Таму парада ад ветэрынара да ўсіх, у каго ёсць дамашні гадаванец, – звяртаць увагу на яго паводзіны. Каты хлусяць і прыкідвацца не ўмеюць. Любое адхіленне ад звычайных паводзінаў – нагода звярнуцца да доктара. Хаця б для ўласнага супакаення.


**Наталля ТУР**
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99.

**На сайце "Рэгіянальнай газеты" новая рубрыка – "Усё для дамашніх любімцаў"**

Цяпер даглядаць за вашым гадаванцам стане значна прасцей.

Вы будзеце ўзброеныя інфармацыяй пра тое, у якіх магазінах можна набыць корм, цацкі і адзенне для любімца, якім чынам атрымаць бясплатную кансультацыю па доглядзе за ім. І нават дзе зрабіць яму мадэльную прычоску, зняць зубны камень.

Рубрыка будзе дапаўняцца, і вы таксама можаце паўплываць на яе змест. Для гэтага пішыце ў каментарах пад рубрыкай альбо на электронную пошту regionnews@rh.by, пра што б вы хацелі даведацца, якія парады пачуць ад спецыялістаў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Анатолем КАПЦЮГОМ.

Іван Рыгоравіч Капцюг (справа), бацька аўтара публікацыі, і Уладзімір Гулецкі. 1938 год.

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Як кравецкая справа дапамагла прайсці вайну

ВІЛЕЙКА

**Спачатку ён працаваў на зямлі, каб карміць сям'ю, партызан і акупантаў. Пасля прызвалі ў войска, але выпадкова не паспеў на цягнік, які вёз у армію.**

Вызваліўся са штрафбата і апынуўся ў артшколе, дзе дапамагла кравецкая справа. Зімаваў на зямлі на ленінградскім фронце, а ў Прыбалтыйскім шыў парадную форму да перамогі з бляшанкі амерыканскай тушонкі і тэлефоннага кабелю.

Гісторыю свайго бацькі, якая пачынаецца ад гэтага фотаздымка, распавядае дзядзька **Анатоль Капцюг**.

Гэты фотаздымак знаходзіўся сярод папер і дакументаў майго бацькі **Івана Рыгоравіча Капцюга**, якія мне давялося прыводзіць у парадак, калі яго не стала ў 2002 годзе. Тое, што ён беражліва захоўваўся сярод асабістых дакументаў, а не з мноствам іншых фотакартак у сямейным альбоме, паказвала на важнасць для бацькі падзеі, адлюстраванай на здымку. На адваротным баку яго рукой быў зроблены надпіс лацінкай *"Pamiaci nauki kravieckaj 1938 r."*.

З ранейшых аповедаў бацькі ведаў, што ён са сваім сябрам **Уладзімірам Гулецкім** вучыўся кравецкай справе ў вёсцы Забродздзе ў мясцовага майстра. Фотаздымак яўна пастановачны, зроблены на вуліцы пад хатай: на сцяне прыгожыя даматканыя посцілкі, хлопцы вельмі сур'ёзныя і апранутыя па-святочнаму, на кравецкім стале непатрэбныя ў гэты момант прас на вуглях і нейкі музычны інструмент. Бачна, што яны вельмі ганарыліся сваёй навукай.

Фотаздымак зрабіў невядомы фотограф-вандроўнік летам 1938 года, за год да пачатку Другой сусветнай вайны. І, як высветлілася, "кравецкая навука" ў значнай ступені аблегчыла яго жыццё на гэтай кровапралітнай вайне, на якой ён застаўся жывым і нават не параненым.

### Успаміны пра вайну: спачатку цішыня, пасля з гумарам

У 50-я гады мінулага стагоддзя, у той час я яшчэ быў малым хлапчуком, у дамах не было тэлевізараў з ваеннымі серыяламі, мастацкіх фільмаў аб вайне было мала, а калі і былі, то нейкія несапраўдныя. Адны артысткі ды лётчыкі і ўсе спяваюць, а салдат няма. Я нярадка прасіў бацьку і іншых сваякоў, якім давялося ваяваць, расказаць штонебудзь пра вайну. Яны адразу станавіліся задуменнымі, і адказ быў аднолькавы – табе яшчэ рана, ты нічога не зразумееш.

Напэўна, яны самі яшчэ да канца не зразумелі, што такое вайна, каму яна патрэбная, за што загінулі мільёны маладых і дужых хлопцаў па абодва бакі фронту. Мяркую, яны ў той час моўчкі радаваліся, што засталіся жывымі. Калі вайна аддалілася больш чым на сорак гадоў, яны, ужо ветэраны, пачалі з ахвотай дзяліцца ўспамінамі між сабой і з іншымі.

На Дзень Перамогі ці на якое іншае свята звычайна заходзілі ў госці да бацькоў мае дзядзькі **Аляксандр Васільевіч Сільвановіч** і **Аляксей Паўлавіч Круцько**. Калі я прыязджаў у гэты дзень наведаць ужо не маладых бацькоў, распачыналіся аповеды аб жыцці салдата на вайне, аб усялякіх цікавых і смешных выпадках, у тым ліку для мяне, самага ўважлівага слухача. Бывала, аповеды працягваліся да позняга вечара.

Успаміналі весела, з гумарам. Ці ж не смешна – зімой пад Псковам, ноччу заблудзіўшы ў моцную завіруху, трапіў у нямецкія акопы. Вартавыя ад ветру і снегу, сабраўшыся разам, схаваліся ў куце траншэі пад брызентам і ціхенька размаўлялі, напэўна, аб сваёй нялёгкай долі. Не заўважылі! Пачуў нямецкую гаворку, імгненна выскачыў з варожай траншэі і пабег, адкуль узяліся тыя сілы. Ды так пабег, што праскочыў свае акопы. Там таксама не заўважылі, і толькі раніцай, як пасвятлела, знайшоў сваю батарэю.

Ці выпадак з дзядзькам Аляксандрам. Бралі Берлін. З крыкамі "за Радзіму, за Сталіна" беглі ў атаку. Раптам пачуў, сябра нешта крычыць і паказвае на нагу. Глянуў, у назе, ніжэй калена, тырчыць вялікі асколак ад міны, а бот поўны крыві. Як убачыў, адразу страціў прытомнасць. Трапіў у шпіталь, а то мог бы і да Берліна з асколкам дабегчы, каб не ўбачыў. Медаль за ўзяцце Берліна ўсё ж такі атрымаў. Яшчэ ён быў узнагароджаны медалямі за ўзяцце Кёнігсберга, Варшавы і Прагі. Такіх вясёлых выпадкаў і здарэнняў у іх салдацкім жыцці было мноства, аповеды працягваліся не адзін год.

З часоў аповедаў ветэранаў прайшлі ўжо два дзесяткі гадоў. Ужо няма сярод нас тых, чые ўспаміны я ўважліва і з захапленнем слухаў. Сёлета, у год 70-годдзя Перамогі і стагоддзя ад дня нараджэння майго бацькі, я паспрабую ў большменш храналагічным парадку пераказаць тое, што засталося ў памяці з яго аповедаў пра франтавое жыццё і як на яго паўплывала кравецкая навука.

### Пракарміць вайну

1 верасня 1939 года гітлераўская Германія напала на Польшчу. Пасля 17 верасня Беларусь аб'ядналася ў адну сацыялістычную рэспубліку. 4 снежня была ўтвораная Вілейская вобласць. 15 студзеня 1940 года вобласць падзеленая на 22 раёны. У тым ліку Куранецкі, з якога 26 лістапада 1940 года бацьку павінны былі прызваць на службу ў Чырвоную Армію, але не прызвалі.

Бацьку было ўжо 25 гадоў, напэўна, палічылі сталым і нядобранадзейным. Ні ён і ніхто з яго сям'і не былі ні кулакамі, ні агентамі замежных разведак, не прымалі ўдзелу ў контррэвалюцыйных арганізацыях, таму бацька прадоўжыў працу на сваёй зямлі.

**Дзядзька Анатоль КАПЦЮГ, Вілейка. Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

## 19 СНЕЖНЯ

**80 гадоў** з дня нараджэння (1935) Валянціны Лемцюговай, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных Ад 1961 года – у Інстытуце мовазнаўства АН БССР. Старшыня Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі. Даследуе сучасную беларускую мову, анамастыку (уласныя імёны). Больш за 200 навуковых прац прысвечаны пытанням станаўлення і функцыянавання ўсходне-славянскай айканіміі ("Беларуская айканімія", "Фарміраванне ўсходнеславянскай айканіміі ў сувязі з развіццём тыпаў паселішчаў", "Słowianska onomastyka", нарматыўны даведнік "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь", інш.). Аўтар "Украінска-беларускага слоўніка", сааўтар "Руска-беларускага слоўніка грамадска-палітычнай тэрміналогіі", прац "Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах" (разам з М.В.Бірылам) і "Сучасная беларуская мова", кнігі "Тапонімы распавядаюць".

## 20 СНЕЖНЯ

**175 гадоў** з дня нараджэння Казіміра Альхімовіча (1840 – 1916), беларускага жывапісца і графіка.

**155 гадоў** з дня нараджэння Яўфіма Карскага (1860–1931), філолага, этнографа, аўтара прац па гісторыі беларускай мовы, беларускай і рускай палеаграфіі і фальклору.

**125 гадоў** з дня нараджэння Аскара Марыкса (1890–1976), беларускага мастака тэатра, графіка, педагога, народнага мастака Беларусі, аднаго з заснавальнікаў беларускай сцэнаграфіі.

## 21 СНЕЖНЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння Мікалая Аладава (1890–1972), беларускага кампазітара і педагога.

## 23 СНЕЖНЯ

**45 гадоў** з часу выхаду (1970) Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Мінскай вобласці другім ордэнам Леніна.

## 24 СНЕЖНЯ

Нарадзіўся Фёдар Маркаў (1914–1958), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Вілейскай вобласці ў Вялікую Айчынную, Герой Савецкага Саюза. З 1944 года – намеснік старшыні Вілейскага, потым Маладзечанскага аблвыканкамаў. Памёр і пахаваны ў Маладзечне.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

● ТЭМА НУМАРА

# Парадуйце Вогненную Малпу і надзеньце тое, што ёй спадабаецца

**Да Новага года застаецца менш за два тыдні, і самы час падумаць пра тое, у чым і як яго сустракаць.**

Што дакладна ацэніць Малпа, дык гэта вашу фантазію і жаданне зрабіць навагоднюю ноч непаўторнай. Будзеце гатовыя пусціцца ў прыгодніцкую авантуру, таму найперш падумайце пра зручнасць навагодняга ўбору.

Важна, каб адзенне не скоўвала вас, а наадварот, давала свабоду і лёгкасць, жаданне рухацца і забаўляцца. Выдатна, калі ў гэты Новы год вы разам з сям'ёй ці сябрамі прыдумаеце і правядзяце конкурсы, гульні. Будзьце ўпэўненыя, што вашы арыгінальнасць, крэатыўнасць і вынаходлівасць гарэзе-Малпе спадабаюцца.

### Што апрануць у навагоднюю ноч

Паколькі 2016 – год Вогненай Малпы, то сустракаць яго трэба ў натуральных тканінах чырвонага, цёмна-ружовага альбо бардовага колераў. Але не думайце, што Малпа не пакінула вам іншых варыянтаў. Можаце смела выбіраць уборы аранжавага, залацістага, жоўтага, перламутравага, каралавага колераў.

Ваш ўбранне павінна быць яркім, кідкім, экстравагантным і з прыцягальнымі элементамі.

Жанчынам варта прадумаць, якія будуць упрыгожванні. Яны таксама мусяць вылучацца сваёй незвычайнасцю і кідацца ў вочы. Абірайце вялікія завушніцы і бранзалеты. Золата ці серабро – не мае вялікага значэння.

Каб вобраз быў завершаны, не забудзьце пра прычоску. Жанчынам лепш зрабіць прыгожыя локаны альбо сабраць валасы ў элегантны хвост. Падыдуць і самыя розныя варыянты ўкладак і кос з хваста.

Мужчынам таксама варта дадаць у свой святочны касцюм крыху арыгінальнасці: надзець яркую сарочку, дадаць незвычайны гальштук альбо мятлік.

### Парады, як апрануцца, па знаках задыяка

**Авены**, якія знаходзяцца пад заступніцтвам Марса, імкнуцца заўсёды і ўсюды быць у цэнтры ўвагі. У год Малпы яны могуць дазволіць сабе быць яркімі і неардынарнымі. Доўгія вячэрнія сукенкі з разрэзамі, шырокія спадніцы, аголеныя плечы і безліч упрыгожванняў – такія рэкамендацыі даюць астролагі на 2016 год.

Навагоднія ўборы для **Цяльцоў** павінны захапляць сваёй элегантнасцю. Заступнік гэтага знака – Венера – дорыць ім тонкі густ, усмешку і ўменне выбіраць самыя вытанчаныя строі. У год Малпы ім трэба крыху змяніць свае звычкі. Варта спыніць свой погляд на больш экстравагантных і незвычайных уборах. Асаблівую ўвагу надаць аксесуарам.

**Блізнят** павінна адлюстроўваць іх сутнасць – Меркурый надзяляе іх не толькі розумам, але і какетлівасцю. Таму вы можаце забыцца пра стрыманасць і адзецца так, як вам падкажа ваша фантазія: яркія ўборы, доўгія спадніцы, доўгія шлейфы. Варта, каб прысутнічала парная дэталь: аднолькавыя бранзалеты, пярсцёнкі альбо завушніцы.

Сціплым **Ракам**, якія знаходзяцца пад заступніцтвам Месяца, трэба сустрэць Новы год у элегантным уборы. Падыдуць вячэрнія сукенкі ў спакойных і мяккіх колерах, кароткія альбо доўгія спадніцы з лёгкіх матэрыялаў любых колераў.

**Шалям**, якія любяць здзіўляць сваім выглядам, можна смела ісці за сваёй фантазіяй і паддацца запалу. Лепш абраць шаўковую або атласную сукенку любога адцення сіняга і зялёнага колераў і ўпрыгожыць яе аксесуарамі альбо дэталямі з футра. Галоўнае, не перастарацца, каб не нагадваць сабой ёлку на навагоднім бале.

Адзенне для **Дзеваў** не павінна быць падобным на паўсядзённае. Халаднаватыя і педантычныя Дзевы звычайна аддаюць перавагу строгай класіцы. Калі вы не хочаце здраджваць сабе, але ў той жа час выбраць штосьці больш экстравагантнае і моднае, то для сустрэчы Новага года варта набыць кактэйльную сукенку са строгім сілуэтам насычаных глыбокіх адценняў або ўпрыгожыць свой убор буйной біжутэрыяй і яркімі аксесуарамі: шырокімі пасамі, капялюшыкам ці шалікам.

**Леў**. Сонца, заступнік гэтага знака, надзяляе сваіх падапечных каралеўскай веліччу і любоўю да ўсяго яркага і незвычайнага. Новы год дорыць вам магчымасць здзейсніць усе свае таемныя мары і жаданні: выбірайце любы касцюм і не бойцеся перабраць з упрыгожваннямі.

Навагодні ўбор **Скарпіёнаў** павінны выклікаць усеагульнае захапленне. Прадстаўнікі аднаго з самых моцных і неадназначных знакаў заўсёды ўмеюць прыцягнуць увагу і паказаць сябе ў найлепшым святле. У навагоднюю ноч зрабіць гэта дапамогуць сукенкі з адкрытымі плячыма, спінай або высокімі разрэзамі, якія будуць агаляць нагу да сцягна. Можна таксама абраць строй альбо абутак з трапічным прынтам.

Адзенне і аксесуары для **Стральцоў** у год Малпы трэба выбіраць па колеры заступніка знака – Юпітэра. Касцюмы і сукенкі ўсіх адценняў сіняга будуць як ніколі дарэчы. Уборы мяккіх пастэльных тонаў, някідкія, але лёгкія і элегантныя сукенкі і спадніцы, якія развяваюцца на хаду і дадаюць лёгкасці. Таксама падумайце аб капялюшыку альбо іншым упрыгожванні для галавы.

**Казярогі** ў навагоднюю ноч павінны знайсці кампраміс паміж строгім і сур'ёзным. Калі вы будзеце абіраць строгія сілуэты святочных сукенак, паклапаціцеся пра дадатковыя аксесуары або зрабіце сваё аблічча нечакана сэксуальным – высокія разрэзы, адважнае дэкальтэ, аголеная спіна унясуць у ваш вобраз нотку экстравагантнасці і авантурызму.

Уборы **Вадалееў** будуць упрыгожваннем свята. Уласцівая гэтаму знаку вытанчанасць і неардынарнасць дазволяць стварыць самыя мудрагелістыя строі, пры гэтым застаючыся узорам густу і элегантнасці. Зрабіце акцэнт на дэталях: выбірайце складаныя касцюмы з багатым аздабленнем, мноствам упрыгожванняў,валанамі, карункамі. Ваш густ і пачуццё меры падкажуць, калі трэба спыніцца.

**Рыбы** – адзіны знак, якому можна адмовіцца ад прысутнасці чырвонага колеру ў навагоднім вобразе. Смелыя жывёльныя і трапічныя прынты – вось што спадабаецца Вогненнай Малпе.

### Мода на ўвесь 2016 год

2016 – год Малпы, таму многія вядомыя дызайнеры ў модных трэндах зрабілі акцэнт на колерах гэтай жывёлы.

**Для мілых дам.** Спадніцы і сукенкі з замшы і скуры, касцюм з пінжаком і блузкай з камуфляжным прынтам – усё гэта ў каштанавым, баклажанавым, бірузовым, кафейным і шэрым колерах. Не варта забываць пра піск моды 2015 года – пасцельных тонах. Многія дызайнеры раяць выкарыстоўваць спакойныя і мяккія адценні.

**Для мужных кавалераў.** Адзін з трэндаў мужчынскай моды 2016 года – скура. У новым годзе будуць актуальныя практычныя рэчы, простыя джынсы, скураныя курткі, дэмісезонныя паліто да калена, класічныя сарочкі і кофты. Падчас сёлетніх паказаў у межах "Belarus Fashion Week", якія прайшлі ў кастрычніку ў Мінску, стала відавочна, што для мужчын мода ў 2016 годзе асабліва не зменіцца. Класіка ў спалучэнні з практычнасцю застаецца ў модзе.

**Вобраз 2016 года: перавага аддаецца якасным натуральным матэрыялам, простым і лаканічным, але ў той жа час сучасным рэчам. І не забываем пра класіку: яна жыве заўсёды.**

Прытрымлівацца моды заўсёды выдатна, а яшчэ лепш – знайсці свой стыль, захоўваць і берагчы яго.

**Багдан РАМАНОЎСКІ, вучань СШ №2 Маладзечна.**



# Чым упрыгожваць парады дызайнера

**Калі да Новага года яшчэ ёсць час, а свята хочацца зараз і цяпер, працей за ўсё яго наблізіць, упрыгожыўшы навагоднюю ёлку.**

Але як і ўсе модніцы хочуць сустракаць свята ў абноўках, так і галоўная прыгажуня свята павінна быць самай прыгожай, непаўторнай і запамінальнай.

Дызайнерка **Ганна Кічыгіна** дае некалькі парадаў, якія зробяць вашу ёлку непаўторнай і той, ля якой захочацца сфатаграфавацца і вам, і вашым гасцям.

Па-першае, трэба вызначыцца з колерам. Памятаем, што больш гарманічна глядзяцца ёлкі, якія ўпрыгожаныя ў адной колеравай гаме.

Для ёлкі сезона-2016 падыдуць упрыгожванні чырвонага, залацістага, жоўтага, карычневага і белага адценняў.

Чаму менавіта такія? А вы забыліся, што сімвал наступнага года – Вогненная Малпа, таму менавіта такія колеры будуць ёй даспадобы.

Паспрабуйце падысці да размяшчэння шарыкаў таксама крэатыўна. Не размяшчайце іх хаатычна, а паспрабуйце зрабіць гэта дакладна па вертыкалі ці па спіралі. Сёлета папулярна ўпрыгожваць ёлку ў вясёлкавай гаме. Пачніце ад верхавіны, ля якой размясціце некалькі чырвоных шароў, і паступова спускайцеся па спіралі да фіялетавага колеру. Каб гэта прасцей было зрабіць, спачатку павесьце гірлянду.

У крамах цяпер можна набыць ёлачныя цацкі на





> „
> “Мода праходзіць, стыль застаецца”
>
> Коко Шанэль

> “Мода – гэта не пра лэйбы і не пра брэнды. Гэта пра штосьці яшчэ, што адбываецца ўнутры нас”
>
> Ральф Ларэн

## ёлку ў 2016 годзе:

любы густ. Папулярныя ў гэтым сезоне цацкі з карункаў, з фетру, з тэкстылю. Калі будзе жаданне, упрыгожце вашу лясную прыгажуню ў якім-небудзь адным стылі, напрыклад, кантры ці рэтра-стылі.

Ведаем, што многія з вас сумуюць па снезе. І невядома, ці парадуе нас надвор'е ў навагоднюю ноч. А ствараць навагодні настрой прасцей простага. У магазінах прадаецца штучны снег у балончыках. Распыліце яго на галінкі сваёй ёлкі, і ваша персанальная снежная зіма будзе вас радаваць столькі, колькі будзе стаяць ёлка.

Калі ў вас ёсць маленькія памочнікі, якія як і вы чакаюць свята, заручайцеся іх дапамогай і зрабіце ёлачныя цацкі сваімі рукамі.

Зразумела, што можна было паклапаціцца пра матэрыялы раней, назапасіць шышак або навучыцца валянню з воўны, але калі часу мала, а творчасці хочацца, зыходным матэрыялам для яго могуць служыць і старыя цацкі.

Іх можна абматаць ніткамі, упрыгожыць бісерам, стразамі, паеткамі.

Можна ўзяць прыгожую бліскучую тканіну, проста заматаць шарык у яе і зашчапіць усе гэта прыгожым бантам.

Вы спытаецеся, дзе ўзяць ідэі для ўпрыгожання?

А вы ўспомніце свае захапленні. Магчыма, вы штогод прывозіце з адпачынку ракушкі або збіраеце манеты. Ці проста захапляецеся кулінарыяй? Упрыгожыць ёлку можна і печывам, і пернікамі, і цукеркамі. Зусім нічога не натхніла? Тады прайдзіцеся па навагодніх крамах, паверце, падказкі можна знайсці паўсюль.

**Наталля ТУР.**

# Дзед на роліках, хлопец з 51-м памерам абутку – выберы Асобу года “РГ”



**Напрыканцы 2015 года самы час падводзіць вынікі. “РГ” прапануе вам далучыцца і выбраць чалавека, які заслугоўвае звання Асобы года.**

Летась Асобай года чытачы “РГ” выбралі вучня 11 класа з Маладзечна **Уладзіміра Грахоўскага**, які выратаваў дзіця. Ён двойчы нырay за хлопчыкам, пакуль аднагодкі стаялі і смяяліся.

Сёлета калектыў “Рэгіянальнай газеты” доўга выбіраў людзей, якія запомніліся чытачам гераічнымі ўчынкамі альбо зрабілі нешта карыснае для рэгіёна, горада, мястэчка, альбо проста здзівілі грамадскасць нечым незвычайным.

Але канчатковы выбар застаецца за вамі, шаноўныя чытачы. Прагаласуйце за аднаго з кандыдатаў. Калі вы ведаеце чалавека, які нечым вызначыўся, але не патрапіў у спіс, тэлефануйце ў рэдакцыю і раскажыце пра яго.





### Кандыдаты на статус Асобы года па версіі “РГ”

**АСТРАВЕЦ**

1. **Адам Мальдзіс**. Першы даказаў, што **Міхал Клеафас Агінскі** напісаў паланэз “Развітанне з Радзімай” менавіта ў Залессі на Смаргоншчыне. Сёлета рэгіён і ўвесь свет святкавалі 250-годдзе славутага дыпламата, палітыка, музыканта.

**АШМЯНЫ**

2. **Крысціна Шлыковіч**. Дзяўчына стала самай дужай атлеткай у абсалютнай катэгорыі чэмпіянату Літвы па паўэрліфтынгу.

**ВАЛОЖЫН**

3. **Вадзім Бычкоўскі** здзівіў грамадскасць 51-м памерам нагі, да якога складана знайсці абутак.

**ВІЛЕЙКА**

4. **Таццяна Цітуленка**. Стала “Чалавекам года” на Вілейшчыне. Яна старшыня грамадскага аб'яднання “ЗОВіК”, мэтай якога з'яўляецца прыцягненне большай увагі да Вілейшчыны. Аб'яднанне рэалізавала наступныя праекты: “Ачысцім малую Пляснянку – выратуем Балтыйскае мора”, “Так роварнаму руху” і іншыя.

5. **Уладзімір Буркевіч**. Вучань Ільянскай сярэдняй школы, які сам сабраў калекцыю танкаў і самалётаў, паводле якой праводзіць экскурсіі.

6. **Дзяніс Канецкі**. Кіраўнік Вілейскага таварыства аховы помнікаў, арганізаваў прыбіранне старых каталіцкіх могілак у Вілейцы, устаноўку інфармацыйных стэндаў у Куранцы, Камене і Касуце.

**СМАРГОНЬ**

7. **Алёна Дубяга**. Навучэнка Вілейскага дзяржаўнага каледжа са Смаргоні знайшла кашалёк з вялікай сумай грошай, банкаўскімі карткамі з кодамі і вярнула яго гаспадыні.

8. **Цімафей Дуброўскі** каардынуе пошукі зніклых людзей выратавальна-пошукавага атрада “Анёл”. Дзякуючы яму сёлета знайшлі дваіх зніклых.

9. **Максім Пашук**. Уладальнік Гран-пры фестывалю-конкурсу “Адна зямля”, суарганізатарам якога з'яўляецца “РГ”.

**МАЛАДЗЕЧНА**

10. **Міхась Казлоўскі**. Выдаў першы фаліянт пра Язэпа Драздовіча.

11. **Пётр Цыгалка**. Вывучаў гісторыю роднай вёскі Мільча Вілейскага раёна, сабраў многа дакументаў, у тым ліку царквы. па іх складаў свой радавод, дапамагаў выхадцам з навакольных вёсак знайсці свае карані. Дапамагаў рэдакцыі ў падрыхтоўцы некаторых краязнаўчых матэрыялаў. 16 красавіка ён пайшоў з жыцця.

12. **Ігар Ліштван**. 20-гадовы маладзечанец вырашыў, што ад 1 ліпеня 2012 года будзе размаўляць па-беларуску. І трэці год запар не здраджвае аднойчы прынятаму рашэнню.

13. **Марыя Зяцева**. 80-гадовая жанчына працуе тэрапеўтам у паліклініцы №1 амаль паўстагоддзя.

14. **Воля Трубач**. Арганізуе квэсты, складае турыстычныя маршруты ў рэгіёне, зацікаўлівае людзей да падарожжаў і здаровага ладу жыцця. Пастаянны аўтар “РГ”.

15. **Вікенці Налівайка**. Маладзечанская славутасць – дзядуля на роліках.

16. Вядоўца і спявак **Дзмітры Рудык** і фатограф **Вольга Жарская** арганізавалі дабрачынны канцэрт “Проста падары”.

**МЯДЗЕЛ**

17. **Юлія Пацяюн**. Стала фіналісткай рэспубліканскага фестывалю-конкурсу “Млын моды-2015” у намінацыі “Фота”. На фотаздымках яна паказала дзяўчат у сукенках з лісця, з прычоскамі з моху.

18. **Уладзімір Кавалёнак, Мікалай Амельяновіч**. Выратавалі мужчыну, які, па ўласных адчуваннях, прабыў у вадзе каля паўгадзіны.

19. **Мікалай Плавінскі**. Археолаг, пад кіраўніцтвам якога ідуць раскопкі Мядзельскага замка.

### Як прагаласаваць за асобу года

Галасаваць за асобу года вы можаце да 3 студзеня. Вынікі будуць апублікаваныя ў другім нумары “РГ” 2016 года за 8 студзеня.

Прагаласаваць вы можаце:

1. На сайце rh.by у спецыяльнай форме для галасавання.

2. Патэлефанаваць альбо даслаць смс-паведамленне на нумар **(8044) 566-26-99**.

3. Па электроннай пошце **regionnews@rh.by**.

4. Даслаць адказ на адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## Смаргонцы абыгралі ашмянцаў

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У трэцім туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе "Вілія" са Смаргоні 13 снежня дома прымала "Ашмяны". Як і ў мінулым туры, смаргонцы забілі дзевяць галоў і выйгралі 9:4.

"Меліяратар" з Астраўца дома перайграў "Навагрудак" 8:5.

У групе "Поўнач" "Вілія" па набраных ачках (шэсць) дагнала лідара, "Легенду". Але па дадатковых паказчыках "Вілія" на другім месцы. "Меліяратар" ідзе трэцім, "Ашмяны" – чацвертымі.

## Вызначыліся паўфіналісты па міні-футболе

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

Гульні чэмпіянату Вілейскага раёна па міні-футболе пачаліся 13 снежня. Другі год яны праходзяць не ў Вілейцы, а ў Мядзеле.

Удзельнічаюць у чэмпіянаце восем камандаў. Іх падзялілі на дзве групы. Па дзве лепшыя каманды выходзяць з групаў у паўфіналы.

У першы дзень турніру прайшлі гульні ў групах. За дзень правялі 12 гульняў.

У паўфіналы з першай групы выйшлі "Юніёр і "Рубін", з другой – "Чырлёны" і "Шылавічы".

– Нечаканасцяў не адбылося, – кажа старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – Каманды, якія выглядалі мацней, пацвердзілі свой клас.

У нядзелю, 20 снежня, адбудуцца паўфіналы, стыкавыя гульні і вызначацца ўладальнікі ўсіх месцаў.

У адным паўфінале згуляюць "Чурлёны" і "Рубін". У другім сустрэнуцца "Юніёр з "Шылавічамі".

## У каледжы спаборнічаюць більярдысты

ВІЛЕЙКА

У Вілейскім дзяржаўным каледжы 8 снежня стартавала першынство каледжа па більярдзе, паведаміла культарганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч**.

Кіраўнік аб'яднання па інтарэсах "Клуб джэнтльменаў" **Іосіф Мароз** адзначыў, што сёлета ўзровень падрыхтоўкі ўдзельнікаў першынства вельмі высокі.

На першым курсе ёсць перспектыўныя більярдысты – **Яўген Шапятоўскі і Яўген Новікаў**. Яны паспяхова могуць супрацьстаяць удзельнікам і прызёрам леташняга першынства, такім як **Юры Галецкі, Яўген Пятkoўскі** і **Уладзіслаў Драбік**.

## У Мядзеле падвялі вынікі Турыяды

МЯДЗЕЛ

У райцэнтры 9 снежня падвялі вынікі раённай круглагадовай Турыяды. Турыяда – гэта спаборніцтвы паміж установамі адукацыі ў турысцка-краязнаўчай дзейнасці.

Турыяда праводзілася па дзвюх намінацыях. У "Турысцкую працу" ўваходзілі ўсе турысцка-спартыўныя спаборніцтвы і турысцкія злёты, у "Краязнаўчую працу" – вынікі краязнаўчых і экалагічных конкурсаў, экспедыцыі, праца школьных краязнаўчых музеяў.

У апошняй намінацыі прызёрамі сталі калектывы вучняў і педагогаў Нарацкай СШ №1, Мядзельскай СШ №1 і Свірскага дзіцячага сада-сярэдняй школы.

У намінацыі "Турысцкая праца" ў прызёрах – Нарацкая СШ №1, Мядзельская СШ №1 і Мядзельскі яслі/ сад-сярэдняя школа.

У агульнакамандным заліку пераможцам стаў калектыў навучэнцаў і педагогаў Нарацкай СШ №1, другое месца – у Мядзельскай СШ №1 і трэцяе – у Мядзельскага ясляў/сада-сярэдняй школы. Пра гэта распавяла метадыст цэнтра творчасці, турызму дзяцей і моладзі раёна **Людміла Верабей.**

## Пройдзе "Маладзёжны мікс"

МЯДЗЕЛ

У суботу, 19 снежня, у Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры намечана правесці спаборніцтвы "Маладзёжны мікс". Прысвечаныя яны Году моладзі.

Прымуць удзел каманды-зборныя школ і каманда малады спецыялістаў. Пазмагаюцца яны ў розных відах.

## Пройдзе чэмпіянат па кікбоксінгу

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 18 да 20 снежня ў горадзе пройдзе турнір па кікбоксінгу – Кубак садружнасці памяці Міхаіла Панцюхова.

Месца правядзення спаборніцтваў – спартыўная зала ДЮСШ №1 па вул. Ясінскага, 21.

Плануецца, што ў спаборніцтвах прымуць удзел каля 25 камандаў з Мінска, Гомеля, Наваполацка, Жлобіна, Слоніма, Шчучына, Навагрудка, іншых гарадоў.

Пачатак паядынкаў 18 снежня – у 12:00; 19 і 20 снежня – у 10:00.

**Аддзел інфармацыі.**

ХАКЕЙ

# "Дынама-Маладзечна": прэтэнзіі да суддзяў і бойка на лёдзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Прайшлі шэсць тураў на другім этапе чэмпіянату краіны. Цяпер тут паўза, выкліканая матчамі нацыянальнай зборнай.**



Фота hcdinamo.by.

Пасля гульні з мінскім "Юнацтвам" у маладзечанцаў засталіся прэтэзіі і да сапернікаў, і да суддзяў.

Каманда "Дынама" (Маладзечна) па-ранейшаму займае пяты радок у турнірнай табліцы.

За гэты час атрыманыя дзве перамогі. На выездзе адолелі жлобінскі "Металург" з лікам 3:2. Дома былі мацнейшымі за мінскае "Юнацтва" з тым жа лікам, але давялі справу да серыі булітаў пасля нічыёй у асноўны час, пра што "РГ" паведамляла на мінулым тыдні.

Чатыры сустрэчы прайгралі, але ніводнага разгрому ў іх не было. Дома з салігорскім "Шахцёрам" 3:4 і "Гомелем" 0:1, на выездзе з гродзенскім "Нёманам" 3:5 і мінскім "Юнацтвам" 2:3 зноў жа па серыі булітаў пасля нічыёй у асноўны час.

Да ведама нашых чытачоў, перамога ў асноўны час каштуе тры ачкі, перамога ў авертайме альбо па булітах каштуе два ачкі, а паражэнне ў авертайме альбо па булітах прыносіць адно ачко.

Найбольш гледачоў сабралася на нашых матчах з мінчанамі. На "Чыжоўка-арэну" прыйшлі 2850 чалавек, а дома аўдыторыя склала 1500 заўзятараў. Было на што паглядзець! Нагадаем, у дамашнім матчы дынамаўцы мелі значныя прэтэнзіі да судзейства, а канкрэтна, да шайбы, закінутай "Юнацтвам" у апошнія хвіліны асноўнага часу. Разгляд у федэрацыі хакея паказаў, што арбітры тут памыліліся, і, як вынік, ім не будзе дазволена абслугоўваць матчы на працягу бліжэйшага месяца. Яшчэ была і бойка на пляцоўцы, за што двое маладзечанцаў і адзін мінчанін выдаляліся ў раздзявальню да канца гульні.

Найлепшую выніковавасць у прайшоўшых шасці сустрэчах паказалі нападаючыя, між іншым, трэцяга звяна **Дзмітры Амбражэйчык** і **Антон Махароў**, якія закінулі па тры шайбы. А прадстаўнікі стартавай пяцёркі абаронца **Мікіта Усціненка** і нападаючы **Станіслаў Лапачук** аддалі па тры трапныя галявыя перадачы. Згодна з афіцыйным рэгламентам, у кожнай сустрэчы вызначаюцца адзін ці нават два лепшыя гульцы ў складах абодвух сапернікаў. За гэты час два разы такім лаўрэатам станавіўся наш галкіпер **Міхаіл Карнавухаў**.

І самае прыемнае. Для таварыскіх матчаў зборнай Беларусі на турніры ў Швейцарыі галоўны трэнер амерыканец **Дэйв Льюіс** выклікаў нашых варатара Міхаіла Карнавухава (1994 г.н.), абаронцаў Івана Усенку (1983 г.н.) і Мікіту Усціненку (1995 г.н.), нападаючага Станіслава Лапачука (1992 г.н.).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр (Салігорск) | 28 | 72 | 18 |
| 2. | Юнацтва (Мінск) | 28 | 61 | 6 |
| 3. | Гомель | 28 | 59 | 11 |
| 4. | Нёман (Гродна) | 28 | 56 | 8 |
| **5.** | **Дынама (Маладзечна)** | **28** | **52** | **6** |
| 6. | Металург (Жлобін) | 28 | 42 | 5 |

**У турнірнай табліцы ў слупках даецца (па парадку) колькасць матчаў, колькасць набраных ачкоў у чэмпіянаце, колькасць набраных ачкоў на другой стадыі чэмпіянату.**

**Расклад дамашніх матчаў "Дынама-Маладзечна" пасля Новага года**

| | | |
|---|---|---|
| 9 студзеня | субота | Нёман |
| 16 студзеня | субота | Гомель |
| 19 студзеня | аўторак | Шахцёр |
| 26 студзеня | аўторак | Юнацтва |
| 4 лютага | чацвер | Металург |
| 18 лютага | чацвер | Нёман |

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Дыскусіі вакол Нобеля: журналістыка або літаратура, ці трэба вывучаць Алексіевіч у школе і што значыць прэмія для Беларусі**

Алексіевіч пісала праўду пра жыццё савецкага чалавека. Таму яе і не друкавалі ў СССР. Камуністычная ідэалогія выхоўвала савецкага чалавека ў страху. Камуністычным прапагандыстам, на жаль, удалося замбіраваць вялікую колькасць савецкіх людзей. Многія з нас, каму больш за 20 гадоў, засталіся "чырвонымі чалавекамі", аб якіх піша Алексіевіч у кнізе "Час сэканд-хэнда". "Дзякуючы" гэтым людзям мы сёння ідзём беларускім шляхам у тупік ці ў балота, а можа, у дрыгву. Беларусы старэйшага ўзросту светлай будучыні наўрад ці дачакаюцца. Народнага гоману не чуваць. Чырвонаму чалавеку усё добра. ***Міхась.***

Савецкае жыццё – гэта 50х50! "Бясплатныя" школы, інстытуты, бальніцы, гэта ўсё за кошт зняволеных і працаднёў. І таму ў мінулым перавагу маюць чорныя плямы. Ні што не можа параўнацца з чалавечым лёсам і жыццём. Жалезная дыктатура ўлады, шматмільённыя ахвяры свайго ж народа, генацыд! Дзейнасць той сістэмы апраўданням не падлягае. Галоўнае – пісаць аб'ектыўна і праўду, якой бы горкай яна ні была! ***Алесь Раткевіч.***

Пагаджуся, што творы Алексіевіч неадназначныя і ўзнімаюць шмат усялякіх пачуццяў і пытанняў. Аднак, на мой погляд, вельмі многа ў іх цёмных колераў і зусім мала светлых. Я ўспрымала тую савецкую частку свайго жыцця намнога святлейшай. ***Эва.***

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настасс РО Дзы.

**Маладзечанка Ксенія Рубацкая другі год займаецца спартыўнай гімнастыкай у Маладзечанскай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву прафсаюзаў. Ксеніі шэсць гадоў.**

## ГАРАСКОП 18-24 СНЕЖНЯ

**Авен.** Калі ўзнікла якая-небудзь складаная сітуацыя, нічога не прадпрымайце. Усё вырашыцца само па сабе. Даверцеся інтуіцыі.

**Цялец.** Смела бярыцеся за новыя справы і не бойцеся, што ў вас нешта не атрымаецца. Галоўныя складнікі поспеху – гэта ваша моцнае жаданне нешта зрабіць, вера ў поспех і, вядома ж, праца.

**Блізняты.** Не будзьце такія запальчывыя і нецярплівыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з калегамі, ні з блізкімі.

**Рак.** Дапамажыце таму, хто папросіць вас аб гэтым. І ніколі нічога не рабіць на шкоду сабе.

**Леў.** Вы многага дасягнулі і можаце ганарыцца сабой. Але вас мучаць страхі, перажыванні і нават бяссонніца з-за таго, што нешта ідзе не па вашым сцэнарыі. Не перажывайце, проста часам розум бярэ верх над эмоцыямі і іх становіцца нябачна няўзброеным вокам.

**Дзева.** Звярніце ўвагу на тое, як складваюцца вашы адносіны з блізкімі, таму што цяпер ёсць шанец вырашыць нейкія даўнія праблемы, узнавіць узаемаразуменне.

**Шалі.** Не будзьце песімістамі, гэта ж пустая трата часу. Калі не ведаеце, чым заняцца, едзьце на прыроду, любуйцеся ёю, адчуйце адзінства з ёй. Менавіта ў такія хвіліны прыходзяць у галаву ідэі.

**Скарпіён.** Аддайце выхадныя прыбіранню свайго жылля да свята. Гэта і настрой падыме, і зарадзіць вас энергіяй адчування нечага незвычайнага.

**Стралец.** І няхай навакольныя коса, з асцярогай паглядаюць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет пачынае трансфармавацца, міжвольна прагінаючыся пад вашым пазітыўным напорам.

**Казярог.** Каб зарабіць, трэба шмат працаваць. Але і не ўзвальвайце на сябе празмерны груз адказнасці, бо гэта можа неспрыяльна адбіцца на сямейных адносінах.

**Вадалей.** Вас наведае натхненне, ды так, што вам захочацца ўзяць у рукі пэндзлік і паспрабаваць што-небудзь намаляваць.

**Рыбы.** Крыніцай натхнення стане для вас любімая работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае і матэрыяльнае ўзнагароджанне.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ТЭАТР

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Увага! Дзеці і бацькі!** Толькі ў нас, у абласным драматычным тэатры, ці не хочаце ўбачыць навагоднюю аванцюрную КАЗКУ ДЛЯ ЎСЁЙ СЯМ'І – "**Мех з сюрпрызам, альбо Як лясная братва Новы год сустракала**".

Героі казкі – самыя крутыя лясныя насельнікі: Лясун, Кікімара, Салавей-разбойнік, Гарыныч таксама хочуць атрымаць ад Дзеда Мароза падарункі! Паглядзець казку і паўдзельнічаць у ёй запрашаем

**ад 19 да 30 снежня**
у 10:30 і 13:00.

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Прэм'ера! "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін

18 снежня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара). E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | | | | 7 | |
| | 3 | | | | 5 | 6 | | 1 |
| 2 | | | | 1 | 4 | | | |
| | | | 9 | | | 3 | | 7 |
| | 1 | | | | | | 2 | |
| 7 | | 9 | | | 3 | | | |
| | | | 3 | 8 | | | | 6 |
| 1 | | 2 | 5 | | | | 8 | |
| | 5 | | | | 2 | | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды, баявік, драма "**У сэрцы мора**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 снежня – у 17:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі, камедыя "**Страшылкі**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 снежня – у 17:00
19 снежня – у 11:50 і 19:50
20 снежня – у 21:30
21 снежня – у 19:10
22 снежня – у17:00 і 22:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, прыгоды, баявік "**Зорныя войны: Абуджэнне сілы**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 снежня – у 19:10 і 22:00
19 снежня – у 14:00, 16:50 і 22:00
20 снежня – у 13:00, 15:50, 18:40
21 снежня – у 21:20
22 снежня – у 19:10
23 снежня – у 18:00 і у 21:00
24 снежня – у 22:00
Цана білета: 55 000 – 65 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (Расія, 2015, пасля 16 год)
24 снежня – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Анімацыя "**Аліса ведае, што рабіць! Зялёная помста**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
18 снежня – у 18:00
19 снежня – у 14:30
20 снежня – у 12:00 і 17:30
23 снежня – у 17:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, сямейны "**Тор. Легенда вікінгаў**" (Германія, Ірландыя, 2011, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 12:30
20 снежня – у 13:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 18:00
20 снежня – у 15:30
24 снежня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Прыгоды Падынгтона**" (Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 16:00
20 снежня – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер, прыгоды "**Чорнае мора**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
18, 19 снежня – у 21:30
21, 22 снежня – у 18:30
23 снежня – у 19:00
24 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18, 19 снежня – у 19:30
20, 21, 22 снежня – у 21:00
23 снежня – у 21:30
24 снежня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Каханне ад ўсіх хвароб**" (Францыя, пасля 16 год)
18 снежня – у 17:50
19 снежня – у 17:30
20 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Зыходны код**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 снежня – у 19:50
19 снежня – у 19:30
20 снежня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Рыф**" (Паўднёвая Карэя, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 12:30
20 снежня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КінаДзяцінства. Ін і Яна**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 14:00
20 снежня – у 12:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 15:00
20 снежня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 снежня – у 18:00
19 снежня – у 18:30
20 снежня – у 15:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя "**Жахі**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 снежня – у 20:00
19 снежня – у 20:30
20 снежня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя "**Перапалох у джунглях**" (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, без узроставых абмежаванняў)
19 снежня – у 13:00
20 снежня – у 13:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**SOS, Дзед Мароз і ўсё збудзецца**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
19 снежня – у 14:30
20 снежня – у 18:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Баявік, драма, прыгоды "У **сэрцы мора**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 снежня – у 16:10
20 снежня – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў
Тэлефон для даведак:
**8(01771) 5-68-59.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**19 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +2 | | +5 / +7 | | +7 / +8 | | +4 / +5 | |
| | 741 | ↖ 1 | 743 | → 5 | 743 | → 4 | 741 | → 4 |
| Вільня | +1 / +5 | | +5 / +8 | | +6 / +8 | | +3 / +6 | |
| | 749 | ↗ 3 | 751 | → 6 | 751 | ↗ 4 | 749 | ↗ 4 |

Тэмпература паветра; Воблачнасць, ападкі; Ц ск (мм рт. сл.); Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.30
Захад 16.49
Даўжыня дня 7.19

Усход 13.41
Захад 1.25
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -21,2 °С у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +9,5 °С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,2 мм у 1987 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Ці ведаеце вы, што ў Маладзечне вырабляюцца такія баяны, што з імі выйграюцца міжнародныя конкурсы і імі скараецца журы папулярных шоу? Праз тыдзень "РГ" пазнаёміць вас бліжэй з тымі, хто вырабляе гэтыя ўнікальныя інструменты.**







● КНІГІ

## Бібліятэкары ехалі ў Маскву і Ленінград, каб купіць кнігі

МАЛАДЗЕЧНА

У 1945-м маладзечанскія бібліятэкары спецыяльна ездзілі ў букіністычныя крамы Масквы і Ленінграда, каб папоўніць небагаты бібліятэчны фонд толькі што створанай гарадской бібліятэкі.

– Таму сярод кніг, якія трапілі ў фонды ў той час, шмат са штампамі самых розных расійскіх бібліятэк, – расказала на юбілейнай сустрэчы з нагоды 70-годдзя Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Багдановіча **Вера Качкан**, ветэран бібліятэчнай справы і адна з першых пасляваенных наведніц бібліятэкі.

Сённяшняя раённая бібліятэка, якая ў сярэдзіне мінулага дзесяцігоддзя аб'яднала гарадскія і раённыя бібліятэчныя сістэмы, бярэ пачатак ад гарадской бібліятэкі, якую размясцілі ў звычайным бараку ў красавіку 1945 года.

Каля сотні чалавек сабраліся ў мінулую сераду ў актавай зале Палаца культуры на юбілейную урачыстасць.

Расказвалі пра любоў да кнігі, пра тое, у якіх чэргах стаялі маладзечанцы ў свой час у бібліятэках, каб нарэшце ўзяць патрэбныя кнігі.

Часы змяніліся. Кніга стала менш запатрабаванай. Але бібліятэкары шукалі і шукаюць спосабы пакінуць у сябе чытацкую аўдыторыю. Бібліятэкары і чытачы, якія прынялі ўдзел у святочнай гутарцы, гаварылі, што час кнігі не мінуў.

**Мікола ГАЙДУК.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Ці сутыкаліся вы з выпадкамі перавышэння паўнамоцтваў службовымі асобамі?



**Вікторыя Вільтоўская, студэнтка, Маладзечна:**
– Не прыгадаю, каб са мной здаралася такое. У нас прынята так: калі сутыкаешся з перавышэннем паўнамоцтваў, пазлуеш, раскажаш сям'і. Аднак на гэтым усё і застаецца. Калі б мы былі больш рашучыя пры грубых парушэннях, пісалі скаргі, звярталіся ў адпаведныя органы – няправільных людзей не на сваім месцы было б менш.



**Лаўра Харчук, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Не сутыкалася з такім, была вельмі задаволеная адносінамі да мяне на рабоце. Аднак лічу, што калі такое здарыцца, трэба спрабаваць скардзіцца ў вышэйшыя інстанцыі. Гэта дзейсны спосаб.



**Улад Трацяк, прадпрымальнік, Маладзечна:**
– Са мной здараліся сітуацыі, калі людзі на паўных пасадах паводзілі сябе не ў рамках сваіх паўнамоцтваў. Лічу, што адзіным спосабам барацьбы з гэтым, як і з карупцыяй, з'яўляецца ўзмацненне жорсткасці пакарання да такой ступені, каб думаць пра такія дзеянні было страшна.



**Аляксандр Малько, трэнер-выкладчык, Мядзел:**
– З такой праблемай не сутыкаўся. Калі ж яны здараюцца, пра іх трэба паведамляць у вышэйшыя інстанцыі.



**Антон Дзевялтоўскі, настаўнік, Маладзечна:**
– У дачыненні да мяне альбо маіх знаёмых не ведаю такіх выпадкаў. Але калі такое здарыцца, адзінае выйсце – скардзіцца.



**Дар'я Пальнская, студэнтка, Маладзечна:**
– Не сутыкалася з такім. Але такое здаралася з маімі знаёмымі. На днях у маіх сваякоў міліцыя знайшла маленькага школьніка і пагражала калоніяй. У знаёмых работнікі водаканала без іх прысутнасці прыйшлі, пафоткалі, нешта запісалі. У выніку даслалі штраф. Здаецца, гэта ненармальна.



**Юлія Валько, правец-кансультант, Смаргонь:**
– Са мной здараліся такія выпадкі. Але іх трэба адразу спыняць. Асабліва жорстка караць за такія паводзіны службоўцаў дзяржорганаў, адразу звальняць з пасады не раздумваючы.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1077) 18.12.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1581. Падпісана ў друк у 9.00 17.12.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.